# ФРОНТ У ТЫЛЕ ВОРАГА

Калі па экранах краіны прайшоў фільм «Фронт без флангаў»—аб атрадзе асобага прызначэння, які адважна змагаўся ў глыбокім варожым тыле, гледачы на сустрэчах з масфільмаўцамі і ў пісьмах на студыю прасілі прадоўжыць кінарасказ пра герояў гэтай стужкі, знятай па матывах дакументальнага рамана С. Цвігуна «Мы вернемся» — так зрадніліся многія з гэтымі героямі, такімі дарагімі яны ім сталі.

Вялікую сімпатыю заваяваў перш за ўсё камандзір атрада Млынскі з яго арганізуючай воляй, вытрымкай, душэўнай сілай. У сорак першым, у самы цяжкі момант, знаходзіць ён важкія, мужныя словы, звернутыя да салдат: «Вакол нас фашысты. Але мы на роднай зямлі... У руках у нас зброя, і для нас няма і не можа быць акружэння. Ні жыцця спакойнага, ні цудоўнай выручкі я вам не абяцаю, толькі сваімі рукамі мы заваюем перамогу...». Са згубіўшых свае часці байцоў, якія прабіваліся з акружэння, згуртоўвае Млынскі баявы партызанскі атрад. Бясстрашны сувязны дзед Мацвей, камісар Аліеў, разведчык Ахрым Шміль, медсястра Зіна, несумуючы бывалы салдат Ерафеіч і іншыя палюбіліся гледачу, іх лёс яму было цікава прасачыць далей.

Так у першага фільма (рэжысёр Ігар Госцеў) нарадзіўся працяг — кінакарціна «Фронт за лініяй фронту», дзе вузлавым момантам кінарасказу становіцца дапамога атрада пад камандаваннем Млынскага часцям Савецкай Арміі ў ажыццяўленні важнейшай аперацыі 1944 года — «Багратыён». Атраду трэба было разведаць варожы ўмацаваны раён і адначасова весці напружаную барацьбу са лжэпартызанамі.

Творчая група, якая працавала над гэтымі двума фільмамі, была ўдастоена Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя братоў Васільевых і прэміі Ленінскага камсамола, а таксама ўсесаюзных і міжнародных прызоў.

І вось цяпер на экраны рэспублікі выходзіць трэці фільм — «Фронт у тыле ворага», дзе мы зноў сустрэнемся са знаёмымі героямі. Гэта новая каляровая двухсерыйная шырокафарматная мастацкая кінакарціна, створаная сумесна кінематаграфістамі Савецкага Саюза і Чэхаславакіі пры ўдзеле іх калег з ГДР, ахоплівае падзеі, якія мала асвятляліся ў друку, пра іх мала што вядома. Фільм раскажа гледачам гісторыю, якая пачалася ў 1944 годзе і завяршылася ў незабыўны Дзень Перамогі, 9-га мая 1945 года. Дзеянне карціны адбываецца на тэрыторыях Польшчы, Чэхаславакіі і фашысцкага рэйха. Аснова сюжэта фільма — драматычны расказ пра дзеянні атрада асобага прызначэння ў тыле ворага.

Перад атрадам была пастаўлена задача — сарваць праграму, на якую нямецкае камандаванне ўскладала вялікія надзеі. Праграма ўключала ў сябе прымяненне так званай «зброі адплаты»,— зброі, супраць якой тады амаль не бы-


Радкевіч — арт. Паул Буткевіч, Млынскі — арт. Вячаслаў Ціханаў, Бандарэнка — арт. Яўген Лявонаў-Гладышаў.









ло абароны. Гаворка ідзе аб самалётах-снарадах ФАУ-1 і ракеце ФАУ-2, якія прымяняліся фашысцкім камандаваннем для налётаў на Лондан. І вось, адчуўшы сваё паражэнне ў вайне, фашысты вырашылі выкарыстаць гэту зброю супраць мірных гарадоў нашай краіны. Сарваць злавесныя планы і было даручана атраду палкоўніка Млынскага.

Трэба сказаць, што новая кінакарціна не абмяжоўваецца расказам пра баявыя справы атрада. Дзеянне фільма разгортваецца на фоне буйнейшых падзей другой сусветнай вайны. У карціне паказаны гістарычныя персанажы, кіраўнікі краін, якія ўваходзілі ў антыгітлераўскую кааліцыю.

Фільм вельмі актуальны, сучасны, ён закранае важнейшыя сённяшнія праблемы. Самалёты-снарады ФАУ-1 — правобраз сучасных крылатых ракет, а ФАУ-2 леглі ў аснову распрацовак цяперашняй ракетнай зброі, здольнай знішчыць усё жывое на нашай планеце. Таму ў складанай міжнароднай абстаноўцы савецкія людзі праяўляюць велізарную вытрымку, адстойваючы і ажыццяўляючы курс на захаванне міру, забеспячэнне бяспекі міралюбівых краін.

Барацьба нашага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у выніку якой быў знішчан фашызм, намаганні, прыкладаемыя нашай партыяй і Савецкім урадам сёння, стрымліваюць развязванне новай сусветнай вайны з прымяненнем ракетна-ядзернай зброі, пачатак якой быў пакладзен у далёкім 1944 годзе. Вось асноўная ідэя новага фільма, і аўтары здымалі яго з пазіцый сённяшняга дня і задач, якія стаяць сёння перад дзеячамі мастацтва.

Сцэнарый фільма напісан актыўным удзельнікам тых незабыўных падзей, Героем Сацыялістычнай Працы, генералам арміі С. К. Цвігуном. Ім жа былі напісаны сцэнарыі першых двух фільмаў. У сцэнарыі выкарыстаны шматлікія дакументальныя матэрыялы.

У творчы састаў здымачнай групы ўвайшлі тыя ж работнікі, што былі заняты і ў папярэдніх карцінах, з невялікімі зменамі. Пастаноўку фільма ажыццявіў рэжысёр Ігар Госцеў. Здымаў карціну аператар-пастаноўшчык Аляксандр Харытонаў, мастакі-пастаноўшчыкі — Стален Волкаў, Алес Волеман і Хайнц Рэске, кампазітар Веніямін Баснер.

У фільме гледачы зноў сустрэнуцца з выдатнымі акцёрамі — Вячаславам Ціханавым, Іванам Лапікавым, Валерыяй Заклуннай, Яўгенам Мацвеевым, Уладзіславам Стржэльчыкам і іншымі. У карціне здымаліся таксама вядомыя акцёры Аляксандр Міхайлаў, Вайва Майнелітэ, Віктар Шульгін, Леанід Дзьячкоў, Юрый Назараў, Яўген Ляонаў-Гладышаў, Раіса Разанава, Міхаіл Какшэнаў, Паул Буткевіч, Ігар Уладзіміраў.

Актыўны ўдзел у здымках фільма прымалі нямецкія, польскія і чэхаславацкія акцёры.

## *Акцёры новых фільмаў*

## ЯЎГЕН ЛЯОНАЎ-ГЛАДЫШАЎ

Шлях Ляонава-Гладышава да прызнання быў не просты. Ён не належыць да таго тыпу акцёраў-«зорак», якія, эксплуатуючы сваю эфектыўную, кінагенічную знешнасць, урываюцца на акцёрскі небасхіл, як метэор. Наадварот, маючы знешнасць чалавека з натоўпу, Ляонаў-Гладышаў уважлівы да ўнутранага свету сваіх герояў. У кожную сваю ролю ён уносіць нешта ад сябе: юнацкую бескампраміснасць, рашучасць, яршыстасць і пяшчотнасць. І так, роля за роляй, удасканальваючы сваё прафесіянальнае майстэрства, не спадзеючыся толькі на знешнія даныя, Ляонаў-Гладышаў прыйшоў да таго, што аб ім з поўнай падставай гавораць як аб адным з цікавых маладых акцёраў.

Яўген — выхаванец Ленінградскага інстытута тэатра, музыкі і кіно, які ён скончыў у 1973 годзе. Першыя яго фільмы — «Докер», «Я — вадалаз-2» нараўне хто цяпер памятае, але затое, безумоўна, запомнілася маленькая, але характэрная роля ў дылогіі «Фронт без флангаў» і «Фронт за лініяй фронту», а таксама Міця з фільма «Нянавісць». Ужо ў гэтай ролі праявіліся лепшыя якасці Ляонава-акцёра — шчырасць, рамантычная прыўзнятасць выканання. Гэтыя ж рысы бачны і ў вобразе чырвонаармейца Дзмітрыя Палішчука з фільма «Забудзьце слова «смерць».

Што гэта! Акцёрскі стэрэатып! Зусім не! Карціна «Дарослы сын», дзе Яўген Ляонаў-Гладышаў іграе галоўную ролю, дае на гэта пытанне вычарпальны адказ. Застаючыся знешне ранейшым,— шчырым, нязграбным і пяшчотным, малады акцёр з горыччу выяўляе ў сваім сучасніку рысы эгаізму, душэўнай чэрствасці, інфантылізму, што прыйшлі на змену юнацкай шчырасці.

Запомніўся акцёр гледачам таксама ў кінастужках «Сібірыяда» (Аляксей Усцюжанін), «Корпус генерала Шубнікава» (старшы лейтэнант Мікалай Мальцаў).

У маі мы сустрэнемся з Яўгенам Ляонавым-Гладышавым у новай кінакарціне «Фронт у тыле ворага».

— У трылогіі Ігара Госцева,— гаворыць акцёр,— я заняты з самай першай серыі, якая здымалася ў 1973 годзе, і іграю тут Сямёна Бандарэнку, аднаго з байцоў атрада Млынскага.

Здымацца ў Госцева цікава. Шкада, што ў апошняй частцы сюжэтная лінія майго героя сябе амаль вычарпала. Спачатку было шмат псіхалагічных сцэн: у атрад з Вялікай зямлі закідвалі радыстку, якая аказалася жонкай Бандарэнкі, потым яны расставаліся і іншае. А цяпер я фактычна проста прысутнічаю ў кадры, бо Сямён разам з астатнімі галоўнымі героямі даходзіць да Перамогі.

Думкамі я ўжо ў другой рабоце. Малады чылійскі рэжысёр Себасцьян Аларкон здымае фільм аб палітычнай барацьбе ў Лацінскай Амерыцы «Падзенне Кандора». У папярэдняй яго стужцы «Санта Эсперанса» я выканаў характарную, незвычайную для мяне ролю семінарыста Луіса. У «Кандоры» Аларкон даручыў мне складаны вобраз сялянскага хлопца Мануэля, які здрадзіў свайму народу. Да ўлады ён ідзе шляхам подлых падманаў і забойстваў і паступова становіцца другім чалавекам у дзяржаве.

Аднак з цягам часу хлопец пачынае разумець, што зайшоў вельмі далёка. І ў час перавароту, бачачы, як дыктатар збіраецца ўцячы, кінуўшы знявечаную ім краіну, Мануэль узнімае руку на свайго былога куміра...

# АЛЯКСАНДР МАЛЕНЬКІ

**НА ПРАХОДЗІЎШЫМ У МІНСКУ Ў СНЕЖНІ 1981 ГОДА ДРУГІМ УСЕСАЮЗНЫМ ТЫДНІ-АГЛЯДЗЕ РАБОТ МАЛАДЫХ КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ ФІЛЬМ «АЛЯКСАНДР МАЛЕНЬКІ» БЫЎ УДАСТОЕН ДЫПЛОМА ЖУРЫ ЗА ЛЕПШЫ ПОЎНАМЕТРАЖНЫ МАСТАЦКІ ФІЛЬМ.**

У далёкую вясну Перамогі — вясну сорак пятага вяртае нас новая каляровая мастацкая кінастужка «Аляксандр маленькі», створаная сумесна кінематаграфістамі Маскоўскай кінастудыі імя М. Горкага і студыі ДЭФА [ГДР]. Аўтары сцэнарыя — Інгебург Крэтчмар, Валянцін Яжоў, Уладзімір Яжоў, Уладзімір Фокін, рэжысёр-пастаноўшчык — Уладзімір Фокін.

Фільм назван імем нованароджанага, якому далі імя Аляксандр, з лёгкай рукі маладога капітана Савецкай Арміі. І ўсё ў карціне падпарадкавана імкненню аўтараў зірнуць на падзеі, міжвольным удзельнікам якіх стала тое дзіця, знойдзенае ў правінцыяльным нямецкім гарадку хлопчыкам-дзетдомаўцам, з пазіцый мастака і чалавека сённяшняга дня. Мы, здаецца, амаль фізічна адчуваем у паветры прысмак гару. За кадрам чуецца нямецкая мова. Але на гэты раз ў ёй няма злавеснага адцення металу, які гучаў у многіх стужках пра вайну... У вуснах абяздоленых вайной нямецкіх дзяцей і жанчын мова Гётэ і Шылера набывае былую чалавечнасць.

Цікавыя ў фільме вобразы нямецкіх дзяцей. Здымачная група не дарэмна шукала юных выканаўцаў па дзіцячых дамах ГДР — сярод тых, у каго нягледзячы на юны ўзрост ззаду — свая драма. Асабліва ўдаўся характар Пінзеля. Выхаванец гітлерюгенда, ён спачатку ўзрушае сваёй шалёнай нянавісцю да ўсяго рускага. Але настае момант, калі нянавісць саступае месца здзіўленню. І, нарэшце, трагічная развязка ў фінале фільма поўнасцю абвяргае засвоеныя хлопчыкам з дзяцінства чалавеканенавісніцкія ідэі нацызму.

Перад пачаткам карціны мы ўбачым хроніку фашысцкіх злачынстваў. Яна дапамагае выявіць глыбінны філасофскі падтэкст «Аляксандра маленькага», яго ўсхваляваны заклік да ўсіх сумленных людзей — не дапусціць новай вайны.

— Мы здымалі карціну,— гаворыць Уладзімір Фокін,— напоўненую праўдай чалавечых адносін, калі ад узаемнай нянавісці, праз недавер'е і асцярожнасць, людзі прыйшлі да ўзаемаразумення, да дружбы. Наш фільм адрасаван моладзі, але я спадзяюся, што ён будзе мець цікавасць і для дарослых.

Светлагаловы малыш падбягае да савецкага афіцэра: «Дзядзька, а вы на вайне былі! А вы майго бацьку там не сустракалі! А яго не забілі! А калі ён вернецца!». Гэты эпізод паўтараецца ў карціне некалькі разоў, ён і завяршае яе. І гэта пытанне не толькі да тых людзей у вайсковай форме, да якіх падбягае нямецкі хлопчык у фільме. Гэта пытанне да ўсіх нас. Таму што ад кожнага з нас залежыць, каб не было такіх страшэнных пытанняў, каб яны не зрываліся з дзіцячых вуснаў.

— Усім нам хацелася б,— працягвае размову У. Фокін,— каб наш фільм паглядзелі дзеці і дарослыя, педагогі і бацькі — і не толькі ў нашай краіне. І каб як мага больш людзей зразумелі, што захаванне міру — асабістая справа кожнага чалавека, агульная справа народаў усіх краін, што сёння няма задачы больш актуальнай, больш неадкладнай, чым задача схапіць за руку падпальшчыкаў вайны.

Аднак гэта не адзіная наша мэта. Нам вельмі хацелася б, каб фільм «Аляксандр маленькі» яшчэ раз напомніў свету пра тую вялікую вызваленчую і гуманную місію, якую здзейсніў у мінулай вайне наш народ, савецкі салдат.

Яркія вобразы ствараюць у кінакарціне Барыс Токараў, Юрый Назараў, Міхаіл Какшэнаў, Олаф Шнайдэр, Утэ Любаш, Геры Вольф, Вальфрыдэ Шміт, Мікалай Скарабагатаў, Олаф Бадоіч, Яна Ленц, Брыт Бауман, Штэфан Март, Андрэас Гутоўскі і іншыя.






*Стваральнікі новых фільмаў*

## УЛАДЗІМІР ФОКІН

У кінематаграфію людзі прыходзяць рознымі дарогамі: і адразу са школьнай парты, і будучы ўжо людзьмі сталымі, з запасам жыццёвага вопыту. Уладзімір Фокін адносіцца да другіх. Пасля школы ён паступіў у Харкаўскі політэхнічны інстытут. Скончыў яго, атрымаў спецыяльнасць інжынера-электрамеханіка, быў пакінут на кафедры. Але прага да мастацтва, відаць, прыхавана жыла ў ім заўсёды, таму што яшчэ ў інстытуце Уладзімір са сваімі братамі арганізаваў самадзейны тэатр пад назвай «Сілуэт». Калектыў гэты стаў вельмі папулярны сярод моладзі, а на Усесаюзным фестывалі студэнцкіх тэатраў быў нават удастоен звання лаўрэата.

Затым была служба ў арміі, у войсках ППА, а пасля дэмабілізацыі — выкладаў у тэхнікуме ў Данецку. Але імкненне да рэжысуры не праходзіла. У 1973 годзе Уладзімір Фокін паступае



ў Інстытут кінематаграфіі, у майстэрню Юрыя Ягорава. Вядома, былі ваганні, сумненні ў сваіх сілах, здольнасцях, але гады вучобы паказалі, што новая прафесія і ёсць сапраўднае прызванне Уладзіміра. На чацвёртым курсе ён зняў на Адэскай кінастудыі кароткаметражны фільм «Лівень», які ўвайшоў у кінаальманах, а яго дыпломная работа «Смерць чыноўніка» па апавяданню А. П. Чэхава атрымала прыз на фестывалі студэнцкіх работ за лепшую экранізацыю. Пасля выпуску яго запрасілі на кінастудыю імя М. Горкага.

І вось першы фільм — «Сычык».

— Сцэнарый В. Кузняцова зацікавіў мяне магчымасцю расказаць пра маладога чалавека, аднаго з нас, характар якога выпрацоўваецца ў розных, часта палярных, сітуацыях,— гаворыць У. Фокін.— Ён, як і многія сённяшнія юнакі, дасціпны і часта парадаксальны, схільны да свавольства і фантазій. Але ў «баявых» умовах у ім выступае ўсё, што ёсць лепшае ў чалавеку,— смеласць, воля, стойкасць. Такім чынам, хоць па назве, злёгку, праўда, іранічнай, фільм можна расцаніць як дэтэктыў, гэта перш за ўсё расказ пра чалавека. Імкнучыся да жыццёвай праўдзівасці, мы не падганялі яго пад жорсткія рамкі жанра. У карціне, як і ў рэальнай рэчаіснасці, змешваюцца ўсе жанры — камедыйныя сітуацыі суседнічаюць з глыбока драматычнымі, многа і чыста дэтэктыўных эпізодаў. Жэня Кулік — так завуць галоўнага героя — пасля няўдачы на экзаменах у інстытут ідзе працаваць у міліцыю.

У час здымак кінакарціны «Сычык» Уладзімір Фокін паказаў сябе не толькі як добры рэжысёр, але і як умелы арганізатар. Меркавалася, карціна будзе аднасерыйная. Але калі планы змяніліся, дзве серыі фільма «Сычык» былі адзняты ў тэрмін і на сродкі, адпушчаныя для адной серыі. Па выніках сацыялістычнага спаборніцтва здымачнай групе «Сычык» быў прысуджан пераходны Чырвоны сцяг студыі.

Цяпер на суд гледачоў перадаецца новая работа рэжысёра — каляровая мастацкая кінастужка «Аляксандр маленькі».

— Мы, савецкія людзі,— гаворыць Уладзімір Фокін,— з дзяцінства ўвабралі ў сябе нянавісць да вайны і фашызму, і тым цяжэй нам зразумець, якая кароткая бывае чалавечая памяць. Цяжка ўсведамляць, што сёння на Зямлі і, як ні парадаксальна, у Еўропе жыве даволі многа людзей, якім трэба ўсур'ёз даказваць, што фашызм — гэта дрэнна. Мяне проста-такі ўзрушыў адзін выпадак.

Я працаваў у Дзяржкінаархіве ГДР, шукаў неабходныя мне кадры кінахронікі. Былі прагледжаны многія кіламетры плёнкі і там, і ў нашых архівах, перш чым выстраілася двухмінутная хранікальная экспазіцыя фільма. У ліку іншых кінадакументаў я прагледзеў усе выпускі фашысцкага кіначасопіса «Дойчэ вохеншау» («Нямецкі штотыднёвы агляд»), кожны нумар якога рэдагаваў асабіста Гебельс. Гэта, бадай, самае гнюснае і подлае з усяго, што я бачыў калі-небудзь у кіно. Гэтыя мярзотнікі, здымаючы пакуты і нішчачы савецкіх людзей, на ўсе лады расхвальвалі доблесць свайго воінства.

Я прыйшоў у гасцініцу, уключыў адну з праграм тэлебачання ФРГ (тэлебачанне ў ГДР прымае іх) і не паверыў сваім вачам — паказвалі адзін з нумароў «Дойчэ вохеншау», які некалькі гадзін назад я глядзеў у архіве...

Сёння, калі ўзнімае галаву неафашызм, калі ў свеце палае столькі лакальных войн, а безадказныя палітыкі Захаду з маніякальнай паслядоўнасцю падштурхоўваюць свет да ядзернай катастрофы, я лічу, што мы, кінематаграфісты, абавязаны выказацца наконт гэтага.

«Аляксандр маленькі» — гэта фільм пра дзяцей, якіх асіраціла вайна. Але не пра савецкіх дзяцей або польскіх або, скажам, чэшскіх, а пра дзяцей Германіі, па якіх фашызм, выгадаваны або не спынены іх бацькамі, ударыў нібы бумеранг.

Наш фільм вельмі лакальны — усе яго падзеі адбываюцца на працягу крыху больш двух дзён у сярэдзіне мая 1945 года. Воіны нашай арміі, яшчэ не астыўшы ад нядаўніх кровапралітных баёў, дапамагалі цяпер нямецкаму народу наладжваць мірнае жыццё ў Германіі, свабоднай ад фашызму. Клопаты аб нямецкіх дзецях, асірацелых або згубленых у хаосе вайны, былі ў ліку першых задач, якія вырашала савецкая ваенная адміністрацыя ў Германіі.

# Вясковая гісторыя

Сама назва гэтай новай каляровай шырокаэкраннай мастацкай кінааповесці вытворчасці кінастудыі «Ленфільм» гаворыць аб тым, што яна прысвечана людзям і праблемам сучаснай вёскі. Калі гаварыць коратка, то карціна расказвае пра маладога трактарыста Рыгора Гарэлава, ураджэнца вёскі Алешкіна, дзе калісьці працаваў у калгасе яго бацька. Праўда, ён даўно пакінуў вёску ў цяжкія часы. І вось цяпер сын, адслужыўшы ў арміі, папрацаваўшы «на Поўначах», вяртаецца ў бацькоўскія мясціны. Чалавек працавіты, з моцным характарам, бескампрамісны, гатовы ў любую мінуту ўступіць у бой за справядлівую справу і адстойваць яе да канца.

У карціне ёсць, як кажуць, вытворчы канфлікт — старшыня калгаса Захар Шубін дае згоду аддаць поле, якое з любоўю апрацоўвае Рыгор Гарэлаў, пад гравійны кар'ер.

Ёсць у фільме і каханне — і цяжкае, і радаснае. Іменна тут, у Алешкіне, сустрэне трактарыст былую сваю аднакласніцу Дашу. І іменна ў тую ноч, калі ён, прыняўшы ледзяную купель, утапіўшы трактар і цудам уцалеўшы, басанож па снезе прыбяжыць у яе домік над ракой, знойдзе там прытулак і выратаванне... Іменна ў тую трывожную ноч яны зразумеюць, што цяпер іх шляхі-дарогі непадзельныя.

Аўтары фільма тонка, праўдзіва і пераканаўча паказваюць псіхалогію герояў, даследуюць праблему з пазіцый высокай маралі.

Фільм па сцэнарыю Віктара Пацейкіна паставіў рэжысёр Віталій Канеўскі. Імя ў яго пакуль нягучнае, хоць яго добра ведаюць ленінградцы — Віталій Яўгенавіч плённа працаваў на тэлебачанні, яго імя стаіць у цітрах некалькіх буйных фільмаў, дзе ён быў другім рэжысёрам. На яго рахунку ёсць некалькі цікавых кароткаметражных стужак. «Вясковая гісторыя» — яго дэбют у вялікім кіно.

У галоўных ролях выступаюць вядомыя акцёры — Сяргей Праханаў, Алена Салавей, Віктар Паўлаў, Аляксандр Анісімаў, Алег Штэфанко, Яфім Камянецкі, Ігар Камароў, Віктар Шульгін, Фёдар Адзінокаў, Юрый Дубровіч, Таццяна Говарава.

# ВЕТРАЗІ МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА

Беларускі рэжысёр Леанід Мартынюк — у мінулым журналіст. Перш чым прыйсці ў кіно, ён доўгі час працаваў у газеце. Чэмпіён рэспублікі па боксу, кандыдат у майстры, ён быў спартыўным аглядальнікам і нарысістам, прабаваў сябе на тэлебачанні, а затым скончыў Вышэйшыя рэжысёрскія курсы. Яго настаўнікамі былі выдатныя майстры савецкага кіно — Л. Траўберг і С. Юткевіч, М. Ром і Ю. Райзман.

Сёння рэжысёр Л. Мартынюк — стваральнік некалькіх дакументальных стужак, а таксама мастацкіх фільмаў «Пяцёрка адважных», «Сямейныя абставіны», «Вялікі трамплін» — перадае на суд гледачоў сваю новую работу. Каляровая шырокаэкранная мастацкая кінакарціна «Ветразі майго дзяцінства» знята ім на кінастудыі «Беларусьфільм».

...Баржы, гружаныя збожжам для галадаючых дзяцей, гатовы да адплыцця. Праводзіць іх у горад прыйшлі на прыстань сяляне, якія па жменьцы сабралі гэты неацэнны падарунак. Нечакана на тэрыторыю порта ўрываецца белагвардзейская банда. На яе шляху да збожжа, а значыць, да жыццяў соцень дзяцей, паўстае група рэўкомаўцаў. Але сілы вельмі не роўныя. Канчаюцца патроны, адзін за адным гінуць байцы. І тады беспрытульнік Сцёпка пад кулямі бандытаў накіроўваецца на пошук чырвонагвардзейскага атрада...

Карціна вяртае гледачоў да баявой маладосці Краіны Саветаў. Яе падзеі разгортваюцца ў 1918 годзе. Грамадзянская вайна, разруха, голад, беспрытульныя дзеці. Такі і герой карціны беспрытульны Сцёпка.

Сцэнарый беларускага пісьменніка Васіля Хомчанкі расказвае пра поўнае пригод і подзвігаў жыццё Сцяпана Царова, які стаў контр-адміралам. Савецкая ўлада, чулыя і добрыя людзі выратавалі хлапчука ад гібелі, дапамаглі ажыццявіцца яго даўняй мары аб моры, аб белых ветразях, аб складанай і цудоўнай службе на флоце.

— Сцёпка Цароў,— гаворыць Леанід Мартынюк,— зацікавіў мяне не родам сваіх заняткаў, а характарам. Сваёй нестэрэатыпнасцю. Мы ж да чаго прызвычаіліся! Калі хлопчык у будучым становіцца «вялікім чалавекам», ён абавязкова «правільны» з дзяцінства. Наш жа герой — гэта сапраўдны вулічны хлопец, зладзюшка, ілгун, фантазёр. І я хацеў зрабіць карціну аб тым, як рэвалюцыя вывела ў людзі былога беспрытульніка. А калі гаварыць шырэй — аб тым, што дала Савецкая ўлада дзецям. Таму не выпадкова фільм пачынаецца і канчаецца голасам дарослага чалавека за кадрам — гэта не столькі ўспаміны, колькі ацэнка пражытага. На гэтым фільме я ўпершыню імкнуўся вырашыць тэму грамадзянскасці. Калі «Пяцёрка адважных» — гэта хутчэй наіўнае ўяўленне дзіцяці аб вайне, не больш таго, то тут для мяне ўсё ўжо ўсур'ёз.

— Як бы вы вызначылі жанр карціны!

— Бадай, як героіка-рамантычную драму з элементамі прыгоды. У фільме ж ёсць і рамантыка, і прыгоды, і сутыкненне са смерцю — зусім не рамантычнай, а хутчэй жорсткай. І кампазіцыйна — з аднаго боку, гэта рэальнае жыццё, знятае ў рэалістычнай манеры, скупа, спакойнай камерай, з другога боку,— сны, якія раскрываюць унутраны свет дзіцяці, яны павінны былі быць вырашаны больш рамантызавана, для чаго мы выкарысталі такую метафару: хлапчук, які марыць аб караблі і выдумаў цэлую гісторыю аб загінуўшым бацьку-мараку, імкнецца трапіць у сваіх марах на карабель: ён лезе, лезе ўверх — і зрываецца, ніяк не можа дабрацца. Толькі пераадольваючы цяжкасці, чалавек дасягае сваёй мэты.

Галоўных герояў іграюць Дзіма Пракапчук, Дзяніс Германаў, Станіслаў Гняздзілаў, Віктар Тарасаў, Эдуард Марцэвіч, Іван Мацкевіч, Ніна Піскарова, Андрэй Душачкін.




Лазовіч — арт. Віктар Тарасаў, Сцёпка — Дзіма Пракапчук, Зоя Васільеўна — арт. Ніна Піскарова.

# КІДОК

...Сямён Сямёнавіч Калiткін кожны дзень павінен быў быць гатовым да подзвігу. Такую ужо службу і такое жыццё выбраў ён для сябе. Калiткін — прапаршчык-пагранічнік. Галоўнае для яго — парадак і бяспека. І ў гэту раніцу боты блішчэлі, нібы чакаўся парад, а не звычайны дзень. Усё было, як заўсёды: крыху паспрачаўся з жонкай, указаў салдатам на беспарадак, зладжаным крокам, мінута ў мінуту прыступіў «да выканання» і адразу атрымаў загад падпалкоўніка Умарава праверыць пагранпаласу.

Але ў гэту раніцу ўсё звычайнае, наладжанае скончылася. Парушальнік перайшоў граніцу. Калiткін уступіў у бой, быў цяжка паранен. Яго выратавалі, выхадзілі, адпусцілі дадому, аднак у сувязі з кантузіяй выдалі пенсійнае пасведчанне... А пра тое, як склаўся яго далейшы лёс, вы даведаецеся, паглядзеўшы новую каляровую мастацкую кінааповесць «Кідок» вытворчасці кінастудыі «Таджыкфільм».

Аўтар сцэнарыя — Алег Куваеў, рэжысёр-пастаноўшчык — Анвар Тураеў. У галоўных ролях заняты Аляксандр Філіпенка, Людміла Мянчынская, Хамід Хаджаеў, Гурмінч Заўкібекаў, Міхаіл Іматшоеў і іншыя.



**Калiткін — арт. Аляксандр Філіпенка, Намоз — арт. Хамід Хаджаеў.**

# ПРАЎДА ЛЕЙТЭНАНТА КЛІМАВА

Каляровая мастацкая кінастужка «Праўда лейтэнанта Клімава», знятая на кінастудыі «Ленфільм», расказвае аб сучасных ваенных мараках, аб складаных праблемах, якія даводзіцца вырашаць маладому штурману-падводніку. Гэта фільм пра веру ў сябе, пра вайсковы гонар і дружбу, пра любоў да Радзімы.

...У экіпажы адной з падводных лодак Чарнаморскага флоту — надзвычайнае здарэнне. Старшы лейтэнант Клімаў, не стрымаўшыся, ударыў свайго саслужыўца. Растлумачыць прычыну такіх дзіўных паводзін адмовіўся і падаў рапарт з просьбай перавесці яго на іншы флот.

«Рапарту будзе дадзен ход,— сказаў Паўлу Клімаву немалады падпалкоўнік, які праводзіў дазнанне,— але... Пасля суда гонару». І вось Клімаў, атрымаўшы спагнанне, трапляе на поўнач — цяпер ужо ў званні лейтэнанта.

Нялёгка пачынаецца для яго служба на новым месцы. Малады таленавіты штурман-падводнік, які марыць прадоўжыць традыцыі дзеда і бацькі, апынаецца на беразе... Такая завязка карціны.

Са сваім героем аўтары знаёмяць гледачоў у самых розных сітуацыях, і, перш за ўсё, у такіх, як выкананне вельмі складанай баявой задачы, ліквідацыя аварыі, што здарылася на падводнай лодцы ў час паходу. Мы наглядаем за ім таксама ва ўзаемаадносінах з бацькамі, з жонкай Люсяй... І паступова перад намі раскрываецца характар савецкага марскога афіцэра, мужнага і смелага абаронцы Радзімы.

Вобраз Клімава стварыў акцёр Андрэй Растоцкі, які заваяваў прызнанне гледачоў цікавымі работамі ў кінафільмах «Яны змагаліся за Радзіму», «Канец імператара тайгі», «Эскадрон гусар лятучых» і іншых.

У ролі камандзіра падводнай лодкі Сцяпанава зняўся папулярны акцёр Юрый Каморны, які нядаўна памёр.

У карціне прымаюць таксама ўдзел Павел Іваноў, Пётр Шалахонаў, Ігар Дабракоў, Валерый Даронін, Андрэй Рахманаў, Аляксандр Ліпаў, Барыс Хімічоў, Ірына Гусева, Маргарыта Мацвеева.

Сцэнарый напісаў Леанід Крэйн, які дэбютуе ў кінематографе, у мінулым — афіцэр-падводнік. Пастаноўку карціны ажыццявіў рэжысёр Алег Дашкевіч.

**Клімаў — арт. Андрэй Растоцкі.**



## *Акцёры новых фільмаў*

## ВЕРА ЦІТОВА

...У кіно Веру Цітову прывяла маці. А калі больш дакладна — у студыю пры Казанскім драмтэатры.

— Нарадзілася я ў вёсачцы з добрай назвай Сабакееўка, на Каме. Жылі мы там нядоўга, пераехалі ў Казань. Маці на льнокамбінат пайшла — сорак два гады ткачыхай адпрацавала. Бацька ў вайну загінуў, засталіся мы з ёй удваіх. Усе радасці і смутак на дваіх дзялілі. І цяпер маці — лепшы друг мой. Усё добрае ў мяне — гэта ад яе: яна спявала старадаўнія рускія песні майстрыха, ведае іх мноства, і я спяваць люблю, яна нягодам не паддавалася — і я стараюся.

Восем класаў у 44-м годзе скончыла, і будучае вызначана было: на льнокамбінат пайду. Але падказалі маці людзі: дачка танцуе і спявае, нібы артыстка, вось і павезла яна мяне ў студыю пры Казанскім драмтэатры. Памятаю гэты дзень добра: маленькая, хударлявая маці смела крочыць у тэатр. І я не вельмі хвалююся: задума маці, па мне — і ў мастацкай самадзейнасці добра.

Курс набран быў, аказалася, спазніліся мы, але ўсё ж запрасілі нас у кабінет галоўнага рэжысёра. Сабраліся там акцёры, выкладчыкі, разглядалі мяне з цікавасцю. А я прыбралася ў той дзень: новая матчына зялёная брызентавая куртка, якія рабочым льнокамбіната выдавалі, «фэзэушныя», таксама новыя, чаравікі на драўлянай падэшве і... саламяны капялюш — для прыгажосці...

У студыю мяне прынялі, але папярэдзілі: будзе цяжка. Заканчвала я сярэднюю школу і займалася ў студыі, старалася ўсё паспець і ўсё пазнаць. Адзін стары акцёр-педагог па акцёрскаму майстэрству гаварыў нам: «Акцёр павінен мець музыку ў размове, прыгажосць у рухах, агонь у вачах». Вось гэту «музыку» і «прыгажосць» я і спасцігала.

Першая роля Веры Цітовай у Казанскім тэатры — роля Сярожы Карэніна. Першая вялікая роля — Байба ў спектаклі «Вей, ветрык», які тэатр паказваў на гастролях у сталічным Малым тэатры. Лірычны талент актрысы быў прызнан, але і ў камедыйных ролях яна выступала не менш паспяхова. Тэатр даў ёй многае: расло акцёрскае майстэрства, набываўся вопыт. Тэатр падараваў і ўменне абыходзіцца з людзьмі: гэта вельмі каштоўная ўласцівасць дапамагае ёй у рабоце, у жыцці.

У 1957 годзе Цітовай было прысвоена званне заслужанай артысткі Татарскай АССР. Неўзабаве Веру Аляксееўну запрасілі ў Ленінград.

Першы фільм — «Спрэчка ў Лукашах». З яго і пачалася «калгасна-саўгасная» кар'ера актрысы: сыграла ролю даяркі. У карціне «Дадому» была брыгадзірам паляводчай брыгады, у фільме «Пасля вяселля» — аграномам, у карціне «Наш сумленны хлеб» — членам праўлення калгаса, у «Тайным галасаванні» — ужо галоўным заатэхнікам.

Многа здымалася актрыса ў дзіцячых фільмах: «Снежная каралева», «Армія «Сітаўкі» зноў у баі», «Навагоднія прыгоды Машы і Віці», «Рэспубліка ШКІД» і іншых. Прызнае: працаваць на здымачнай пляцоўцы побач з дзецьмі і цікава, і нялёгка. Шчырасць, праўдзівасць юных акцёраў дзівосныя — яны вераць ва ўсё, што іграюць. І таму цяжка сказаць, што яны іграюць: яны жывуць жыццём сваіх герояў. У кадры з імі проста баішся перайграць.

— Нярэдка лёс падносіць кінаакцёрам сюрпрызы,— працягвае расказ Вера Аляксееўна.— Аднойчы папрасілі мяне падыграць акцёру, які прабаваўся на галоўную ролю ў фільме рэжысёра Надзеі Кашаверавай «Старая, старая казка...». Дапамагла, не адчуваючы пры гэтым хвалявання. А праз месяц нечакана атрымала запрашэнне зняцца ў ролі, у якой падыгрывала. Аказалася, іменна такой і ўяўлялі сабе пастаноўшчыкі Ведзьму: нязлой, нястрашнай, смешнай...

У новай кінакарціне «Вось такая музыка» Вера Цітова выступае ў ролі цёткі Нюры.

# З ВАМІ

цалкам вызвален яшчэ з грамадзянскай. Але на ўсё жыццё ў ім застаўся патэнцыял гераізму. Ён заўсёды быў вайсковым чалавекам і ніколі не аддзяляў свайго асабістага лёсу ад лёсу краіны і свайго народа. Відаць, таму ніколі не здымаў Гайдар вайсковай формы. Шмат думаў пра вайсковыя гульні для дзяцей. Усе гэтыя якасці падкрэслівае А. Грачоў у сваім героі і галоўнае — сабранасць, адчуванне пульсу трывожнага перадваеннага часу.

З самага першага дня вайны Гайдар гатовы да абароны Радзімы. Усё сваё жыццё ён жыў і працаваў для людзей. І калі надыходзіць рашучы момант, не задумваючыся ні на секунду, ён аддае сваё жыццё, выратоўваючы таварышаў.

Асаблівае месца ў фільме займаюць эпізоды цімураўскага руху. Галоўную дзіцячую ролю — сына Гайдара іграе маскоўскі школьнік Дзіма Гайдар. Супадзенне прозвішчаў тут выпадковае — перш чым знайшлі яго, рэжысёры сустрэліся з трыма тысячамі хлопчыкаў. А вось па характару Дзіма і Цімур вельмі блізкія. Гэта адзначыў і сам Цімур Аркадзьевіч Гайдар, які з'яўляецца кансультантам фільма.

У карціне здымаліся таксама Леанід Маркаў, Андрэй Растоцкі, Мікалай Грынько, Дзіма Замулін, Ганна Віктарава і іншыя.



 

# СЛЕДСТВАМ УСТАНОЎ

Надышла летняя ноч. Па вулачках старой Рыгі павольна едзе патрульная міліцэйская машына—сіне-жоўтыя «Жыгулі» з гербамі на дзверцах і «мігалкай» на даху. Ідзе дождж, навокал цішыня. Але раптам... Праз пярэдняе шкло машыны відаць, як па тратуары шпарка ідзе мужчына ў светлым плашчы з туга набітай сумкай у руцэ.

Пачуўшы загад спыніцца, мужчына пачынае ўцякаць. Затрымаць яго не ўдаецца, затое вадалазы пасля працяглых пошукаў знаходзяць на дне Даўгавы спартыўную сумку, якая, выпаўшы ва ўцекача з рук, скінулася ў раку. Сумка аказваецца набітай грашыма — у ёй амаль сто тысяч рублёў...

На наступную раніцу на Бастыённай горцы быў выяўлен труп жанчыны. Мяркуючы па ўсяму, яе ўначы забілі. Дакументаў, якія сведчылі б асобу забітай, не аказалася...

Якое дачыненне мае мужчына, што застаўся невядомым, да велізарнай сумы грошай? Ці звязаны паміж сабой абодвы начныя здарэнні? Хто і чаму забіў жанчыну на Бастыённай горцы? Адказы на гэтыя пытанні і павінны знайсці галоўныя героі новай каляровай шыроказкраннай мастацкай кінастужкі «Следствам устаноўлена...», створанай рэжысёрам Адай Нерэтніеце на Рыжскай кінастудыі па сцэнарыю Леаніда Медзвядоўскага і Кірылы Рапапорта. У выніку іх дзеянняў высветлілася асоба загінуўшай — гэта повар цеплахода «Аляксандр Блок» Лідзія Іванаўна Найдзёнава. Жанчына, якая жыла ва ўласным асабняку, усё сваё жыццё прысвяціла дачцэ, дзевятнаццацігадовай Вользе.

Каму і навошта спатрэбілася забіваць яе? Разумны, праніклівы, высокакваліфікаваны следчы пракуратуры Рута Граўдзіня ў выніку расследавання аб'ядноўвае гэтыя два, здавалася б, розныя злачынствы — крадзёж велізарнай сумы грошай і забойства.

Праз увесь фільм праходзіць думка аб тым, што мэтанакіраваная работа органаў правапарадку прыводзіць да вы-

*Акцёры новых фільмаў*

## ВІЯ АРТМАНЕ

— Я нарадзілася ў невялікім латвійскім горадзе Тукумсе,— расказвае пра сябе народная артыстка СССР Вія Артмане.— Сям'я была рабочая, працавітая. Я яшчэ не з'явілася на свет, а маці спасцігла вялікае гора. Надарваўшыся на рабоце, памёр бацька. Ханжы з добрачыннага таварыства «паклапаціліся» аб сіраце. Мяне забралі ад маці і адправілі ў заможныя сялянскія сем'і. З дзесяці гадоў я была прыладкавана да рамяства — стала пастушонкам. У той час маці мыкалася ў Рызе па чужых дамах. Сабраўшы горкія грашы, яна прывезла мяне ў горад і аддала ў гімназію. Доўга яшчэ мы туліліся на гарышчах, цярпелі крыўды і знявагу. Толькі з прыходам Савецкай улады ў Латвіі перад дзецьмі беднякоў адкрыўся шырокі прасцяг для вучобы. У 1949 годзе я скончыла тэатральнае вучылішча і паступіла на сцэну Рыжскага драматычнага тэатра імя Яна Райніса. Пад кіраўніцтвам выдатнага майстра Эдуарда Сільгіса зрабіла свае першыя крокі ў мастацтве...

Адна з першых ролей Віі Артмане ў



кіно — Дацэ Страўме ў фільме «За лебядзінай чарадой воблакаў». Затым яна выступіла ў ролі Мары Вілдэ ў экранізацыі «Буры» класіка латышскай літаратуры Віліса Лацыса. Аб гэтай рабоце актрыса ўспамінае з асаблівым задавальненнем. Ёй удалося стварыць яркі вобраз дзяўчыны з рабочай сям'і, якая стала ў буржуазнай Латвіі славутай актрысай і сутыкнулася з крывадушнасцю і хлуснёй.

Вялікі поспех прыйшоў да актрысы, калі яна выступіла ў ролі Соні ў фільме «Родная кроў». Гэта быў, бадай, найбольш яркі вобраз, створаны ёй на экране. Гісторыя кахання, якое звязала ў цяжкія пасляваенныя гады двух немаладых людзей, расказана з экрана усхвалявана і тактоўна. У гэтай карціне адбылося рэдкае зліццё асобы актрысы з асобай гераіні. Артмане-Соня расказала пра пачуцці, якія ўсё навокал робяць цудоўным, аб каханні ўзвышаным і рамантычным.

— У кожнага акцёра,— гаворыць Вія Артмане,— ёсць свая глыбінная сутнасць, якая надзвычай рэдка перадаецца ў мастацтве. Але ў вобразе Соні натуральна і падсвядома выплілася маё, асабістае... Ні адна роля не давалася мне з такім задавальненнем і радасцю. Памятаю, як стаяла я на папялішчы дома, дзе прайшло маё дзяцінства. Усё гэта жыве ў маёй душы. Вось чаму я разумела Соню. Вось чаму яна блізкая мне не менш, чым чалавек, у жылах якога цячэ родная кроў.

Калі да фільма «Родная кроў» Вію Артмане лічылі толькі нацыянальнай актрысай, то цяпер уяўленне аб дыяпазоне яе таленту расшырылася. Яна здымалася ў Кіеве («Ракеты не павінны ўзляцець»), у Свярдлоўску («Моцныя ду-



ЛЕНА...

крыцця злачынстваў незалежна ад тэрміну іх даўнасці.

Вельмі падрабязна даследуецца ў карціне роля следчага пракуратуры як асноўнага звяна ў раскрыцці злачынства.

Аўтары фільма пабудавалі сюжэт так, што сапраўдны твар злачынцы гледачы ўбачаць толькі ў самым канцы карціны. Такая задача аўтараў дэтэктыву — па магчымасці даўжэй скрываць разгадку. Гэтаму ў многім садзейнічае і выдатная ігра акцёраў — Віі Артмане, Гунара Цылінскага, Дзмітрыя Палееса, Леаніда Кулагіна, Яўгена Іванычава, Святланы Брагарнік, Валянціны Талызінай, Яніса Сканіса, Галіны Заборскай.

хам»], у Маскве [«Туманнасць Андрамеды»], у Таліне [«Гладыятар»], у сябе ў Рызе [«Эдгар і Крысціна»].

Запомнілася актрыса гледачам і ў вобразе Оны ў фільме Вітаўтаса Жалакявічуса «Ніхто не хацеў паміраць». У гэтай ролі рэзка змяніўся малюнак ролі — знешне скупыя мазкі зліваліся з унутранай страснасцю. Вобраз развіваўся ад грубаватасці, марудлівасці рухаў, жэстаў да непрыхаванай чуллівасці. Ад пакут, мучэнняў, шчасця кахання да нянавісці, агіды да тых, хто стаяў на шляху гэтага кахання, да поўнай спустошанасці, асуджанасці пасля смерці каханага. Быў створан вобраз жанчыны з цэльным характарам, шчырым, непадуладным страху. У гэтай ролі яшчэ раз адкрылася цудоўнае майстэрства актрысы. Не толькі прафесіяналізм і тэхніка, а і ўменне глыбока спасцігнуць сутнасць вобраза.

Аб незвычайным таленце актрысы сведчыць таксама яе работа ў кінастужках «Трайная праверка», «Падарунак адзінокай жанчыне», «Емяльян Пугачоў», «Тэатр» і іншых.

Вія Артмане — сапраўды народная актрыса. Яна выйшла з нізоў, з народа, яе горача і пяшчотна любяць гледачы.

У новай кінакарціне «Следствам устаноўлена...» Вія Артмане выконвае ролю следчага Руты Граўдзіні.

# КАПЕЖ

Каляровая шырокаэкранная мастацкая кінакарціна «Капеж», знятая на Кіеўскай кінастудыі імя А. П. Даўжэнкі,— гэта першая работа ў мастацкім кіно маладога кінарэжысёра, выпускніка Кіеўскага дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва імя Карпенкі-Карага Андрэя Бенкендорфа. Фільм здымалі аператары Міхаіл Чорны і Барыс Мяснікоў, афармляла карціну мастачка Наталля Аксёнава.

У сцэнарыі, напісаным Георгіем Шаўчэнкам, расказваецца аб лёсе адзінокай маці, аб жанчыне, якая імкнецца да сямейнага шчасця.

У ролі гераіні фільма Марыі здымалася народная артыстка СССР, актрыса Маскоўскага тэатра імя У. Маякоўскага Таццяна Дароніна.

Ролю адзінокага мужчыны Аркадзя Сямёнавіча, які марыць ажаніцца з Марыяй, іграе народны артыст РСФСР Мікалай Пастухоў. Гледачы памятаюць яго па кінастужках «Ад зары да зары», «Дзень вяселля давядзецца ўдакладніць», «Мы жылі па суседству» і іншых.

Адну з галоўных роляў выконвае ў фільме акцёр кінастудыі «Беларусьфільм» Аляксандр Аржылоўскі. Жыццё сутыкнула яго героя з Марыяй і яе сынам падлеткам Віцькам. Каханне да Марыі і шчырая зацікаўленасць у далейшым лёсе хлопчыка дапамаглі Івану пераадолець усе цяжкасці, якія ўзніклі ў час іх знаёмства.

У карціне прымаюць удзел таксама Максім Пучкоў, Леанід Яноўскі і іншыя.

## *Акцёры новых фільмаў*

## ТАЦЦЯНА ДАРОНІНА

Галоўную ролю ў фільме выконвае народная артыстка СССР Таццяна Дароніна... Яе экранных і сцэнічных персанажаў не забудзеш і ні з кім не зблытаеш. Гэтак жа, як у свой час Любоў Арлова, Марына Ладыніна і іншыя кінаактрысы 30—40-х гадоў выразілі ў створаных імі вобразах сваю эпоху, так і персанажы Таццяны Даронінай увасобілі тыповыя рысы нашых сучасніц.

Каго б ні іграла Таццяна Дароніна— маладую работніцу Надзю Разаеву з фільма «Старэйшая сястра», бортправадніцу Наташу Аляксандраву («Яшчэ раз пра каханне») або жонку трактарыста Аляксандру Аляванцаву («Мачаха»), яе гераіні — натуры таленавітыя, шчаслівыя, нягледзячы на зменлівасць лёсу і нягоды. Яны крыху наіўныя, непасрэдныя, часам эксцэнтрычныя, нават дзіўнаватыя, але заўсёды добрыя, даверлівыя, вясёлыя, самаахвярныя.

У большасці выпадкаў гераіні Даронінай — жанчыны маладыя, сціплыя і шчырыя. Ім нялёгка даводзіцца ў жыцці, але яны створаны для шчасця, сэрцы іх адкрыты для дабра і кахання. Яны, як дзеці, жывуць больш сэрцам, чым розумам, часцей робяць так, а не інача не ў выніку вопыту і агульнапрынятых норм, а з прычыны жыццёвай недасведчанасці. Але гэтак жа, як любімыя персанажы народных казак перамагаюць не таму, што яны кіруюцца цвярозым разлікам, а з прычыны сваёй дабраты, высакародных імкненняў, так і гераіні Даронінай аказваюцца мудрымі жанчынамі. Голас сэрца і непасрэднасць пачуццяў, як у народным эпасе,— галоўныя ўмовы перамогі яе гераінь. Такую «звышзадачу» вырашае выканаўца амаль ва ўсіх сваіх ролях. Такі лейтматыў выразна праглядвае ў кінакарціне «На ясны агонь».

Адкрыем адзін сакрэт: сцэнарый гэтага фільма пісаўся спецыяльна з такім разлікам, каб як мага ярчэй выявіць артыстычную індывідуальнасць і своеасаблівасць таленту Таццяны Даронінай.

Яе гераіня, кухарка генеральшы Дубасавай — Ганна Касьянава — жанчына маладая, яшчэ не зусім «абвыклая» ў гарадскіх умовах, наіўна закаханая ў свайго аднафамільца бальшавіка Касьянава.

Гісторыя Ганны, расказаная ў фільме,— гэта шлях яе духоўнага росту, сталасці, думак і пачуццяў. Многае родніць Ганну Касьянаву з ранейшымі гераінямі Т. Даронінай. Яна такая ж, як і яны, добрая, крыху дзівакаватая і лагодная. Але пры ўсім гэтым Ганна Касьянава паспяхова выконвае вельмі адказнае заданне губкома, звязанае з пранікненнем у тыл белагвардзейскіх войск адмірала Урангеля. Трапляючы ў надзвычай цяжкія, безвыходныя сітуацыі, Ганна пры ўсёй сваёй жыццёвай непасрэднасці і нявопытнасці перамагае. Ёй дапамагае непахісная вера ў справядлівасць сваёй справы, усведамленне таго,



што трэба выканаць заданне любой цаной.

Раптоўны і заканамерны для яе гераінь пераход ад смеху да слёз. Характэрны, скіраваны ў прастору, поўны тугі позірк і зноў — добрая ўсмешка, надзея, радаснае ўспрыманне жыцця... Аднак пры ўяўнай аднастайнасці і паўтараемасці выканаўчых прыёмаў, пры абсалютнай знешняй пазнавальнасці Т. Дароніна ў кожнай сваёй новай рабоце стварае сацыяльна абумоўлены, непарыўна звязаны з часам, па-мастацку даследаваны характар.

ГОД ДРАКОНА

Новая каляровая шырокаэкранная мастацкая кінакарціна з такой назвай створана на кінастудыі «Казахфільм». У якасці рэжысёра-пастаноўшчыка на гэты раз выступае вядомы казахскі акцёр Асаналі Ашымаў, выканаўца галоўных роляў у фільмах «Канец атамана» і «Транссібірскі экспрэс».

Дзеянне гістарычнага фільма, знятага па матывах рамана Зія Самадзі «Маімхан», адбываецца ў мінулым стагоддзі. Фільм расказвае аб вызваленчай барацьбе уйгурскага народа супраць маньчжура-кітайскіх занявольнікаў пад кіраўніцтвам юнай дзяўчыны Маімхан.

Галоўныя ролі выконваюць: Маімхан — Тамара Яндзіева, Ахтам — Аразгельды Амангельдыеў, Аскар — Юсупжан Саітаў, генерал-губернатар — Байтэн Амараў, Махмуд — Бімбалат Ватаеў і іншыя.

## *Акцёры новых фільмаў*

## БІМБАЛАТ ВАТАЕЎ

Дэбют Бімбалата Ватаева ў кіно адразу прынёс акцёру заслужаную вядомасць і папулярнасць: на Сярэднеазіяцкім кінафестывалі ў Ашхабадзе яму была прысуджана прэмія за лепшае выкананне мужчынскай ролі ў фільме «Хасан-арбакеш».

А пачалося ўсё з захаплення тэатрам, са школьнага драмгуртка. Затым — работа ў драматычным тэатры ў Арджанікідзе, вучоба ў тэатральным вучылішчы імя Б. Шчукіна. Пасля бліскучага выканання галоўнай ролі ў дыпломным спектаклі «Добры чалавек з Сезуана» Б. Ватаева запрасілі ў трупу тэатра на Таганцы, але малады акцёр вярнуўся ў родную Асецію. Асецінскі драматычны тэатр атрымаў новага акцёра, рэдкага па яркасці і сіле таленту.

Здольнага выканаўцу не абмінулі ўвагай і кінематаграфісты. Тады яму і была прапанавана галоўная роля ў стужцы «Хасан-арбакеш». Герой Бімбалата Ватаева — таджыкскі селянін-серадняк Хасан, характар складаны і супярэчлівы. Ён цяжка прывыкае да новага ладу жыцця. Толькі пасля жорсткага сутыкнення з басмачамі ён пачынае правільна разумець падзеі, становіцца абаронцай новага жыццёвага ладу.

Ватаеў — акцёр кантрасных фарбаў, яркага тэмпераменту, у яго ігры амаль няма паўтонаў. Калі ён гневаецца — яго вочы сыплюць маланкі, калі пакутуе — па шчаках льюцца слёзы. Ігра яго пераканаўчая, мы верым яго герою.

Пазней гледачы сустрэліся з Бімбалатам Ватаевым у фільмах «Паэма двух сэрцаў», «Увайдзі ў мой дом», «Як загадвае сэрца».

Што можа быць даражэй акцёру, чым вобраз народнага героя, абаронцы абяздоленых і прыгнечаных, які ўступіў у барацьбу з прыгнятальнікамі! Іменна такі вобраз легендарнага асецінскага героя, створаны Б. Ватаевым у стужцы Н. Санішвілі «Чармен». Атрымаўшы ўдзячны матэрыял, акцёр вырашае вельмі цяжкую задачу — увасабляе на экране вобраз героя, дастойнага любві народа.

Наступныя работы акцёра ў кіно зноў звязаны з гераічным эпасам. Так, у экранізацыі паэмы Фірдоусі «Шах-наме» — у фільмах «Сказанне аб Рустаме» і «Рустам і Сухраб» герой Бімбалата Ватаева — волат Рустам. Гэта чалавек, бязмежна адданы сваёй зямлі, які не шкадуе сіл для яе абароны. Але акцёру ўдалося перадаць у вобразе Рустама не толькі валатоўскую сілу. Ён паказаў яго гуманізм і мудрасць, перадаў трагедыю бацькі, які па ўласнай віне страціў адзінага сына, з надзвычайнай сілай выразіў пратэст супраць бяссэнсавых кровапраліццяў.

У фільме «Паэма аб бавоўне» Бімбалат Ватаеў сыграў старшыню калгаса Героя Сацыялістычнай Працы Сатара Сафарава.

— Мой герой у гэтым фільме,— гаворыць акцёр,— чалавек нашых дзён, выдатны працаўнік, беззапаветна адданы партыі, які ўсё жыццё прысвяціў высакароднай справе. Гэта характар цэласны, страсны. Іграць такога героя, вядома ж, гонар для артыста. Складаная роля і тым, што мне давялося іграць Сатара і зусім юнага, і ўжо не маладога чалавека.

У новым фільме «Год дракона» Бімбалат Ватаеў стварыў вобраз Махмуда.

*Па просьбе нашых чытачоў*

# «ЯК СТАЦЬ КІНААКЦЁРАМ?»

Можа таму, што небывала рана прыйшла вясна і гэта навяло выпускнікоў на думкі аб скорым заканчэнні школы і выбары прафесіі, а можа па якіх іншых прычынах, але сёлета намнога раней звычайнага ў рэдакцыю пачалі прыходзіць пісьмы, у якіх у розных варыянтах паўтараецца пытанне, вынесенае ў загаловак. Чытачы дзеляцца з рэдакцыяй сваімі думкамі аб выбары прафесіі, просяць парады, цікавяцца адрасамі і ўмовамі прыёму ў навучальныя ўстановы, якія рыхтуюць акцёраў кіно, тэатра.

Але перш чым адказаць на шматлікія пытанні, з якімі звяртаюцца ў рэдакцыю нашы чытачы, мы павінны яшчэ раз напомніць усім, хто марыць стаць акцёрам, што «вывучыцца на акцёра» немагчыма. Каб стаць акцёрам, неабходны творчыя здольнасці, неабходзен талент, які затым у працэсе вучобы будзе развівацца і ўдасканальвацца. Але як яго выявіць? Хто можа з усёй пэўнасцю адказаць на пытанне, ці ёсць у чалавека талент?

Вельмі добра, калі вы ўдзельнічаеце ў гуртках мастацкай самадзейнасці. Тут ацэнку вашым артыстычным здольнасцям даюць гледачы і вашы таварышы па драмгуртку. Параійцеся таксама са старэйшымі сябрамі, з бацькамі, настаўнікамі. Яны дапамогуць разабрацца ў вашых сумненнях, дадуць добрую параду. Чытайце часопісы «Искусство кино», «Советский экран», наш часопіс, у кожным нумары якога расказваецца пра творчасць акцёраў, кнігі пра вядомых майстроў тэатра і кіно. Усё гэта дапаможа вам выявіць і развіць свае акцёрскія здольнасці, дапаможа лепш уявіць тыя патрабаванні, якія ставяцца да ўсіх, хто паступае ў тэатральныя навучальныя ўстановы. Калі ж здольнасцей няма, нічым, нават самай старанай вучобай іх не заменіш.

З другога боку, калі вы ўпэўнены ў сваіх здольнасцях і цвёрда вырашылі стаць акцёрам, то нельга і пасаваць перад першымі цяжкасцямі і няўдачамі, нельга адступаць ад намечанай мэты. Трэба сабрацца з сіламі і настойліва дабівацца ажыццяўлення сваёй мары.

Акцёраў кіно рыхтуе галоўным чынам Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі. Яго адрас: 129226, Масква, вул. Вільгельма Піка, 3. Усе паступаючыя на акцёрскі факультэт інстытута перш за ўсё здаюць экзамены па спецыяльнасці. У іх уваходзяць: 1) індывідуальнае субяседванне з мэтай выявіць агульны культурны ўзровень паступаючага, яго веды ў галіне кінамастацтва, тэатра і літаратуры; 2) мастацкае чытанне ўрыўка прозы, верша і байкі, дзе трэба паказаць сваё выканаўчае майстэрства, а таксама выкананне эцюда на зададзеную тэму, дзе паступаючы павінен прадэманстраваць сваё ўменне сыграць невялікую сцэнку; 3) праверка рытмічнасці, музычнага слыху, вакальна-галасавых даных і дыкцыі; 4) кінапроба, дзе паступаючага здымаюць у невялікім эпізодзе, каб высветліць, як ён глядзіцца на кінаэкране.

Тыя, хто паспяхова вытрымаў усе экзамены па спецыяльнасці, допускаюцца да экзаменаў па агульнаадукацыйных дысцыплінах — рускай мове і літаратуры (вусна і пісьмова) і гісторыі СССР (вусна).

На акцёрскі факультэт прымаюцца дзяўчаты ва ўзросце да 19 гадоў і юнакі ва ўзросце да 23 гадоў.

Апрача кінаакцёраў, Інстытут кінематаграфіі рыхтуе рэжысёраў, сцэнарыстаў, мастакоў кіно, кіназнаўцаў, эканамістаў і іншых кінаспецыялістаў.

Тэрмін падачы заяў на творчы конкурс на ўсе факультэты Інстытута кінематаграфіі — з 1 чэрвеня па 5 ліпеня.

Кінаакцёраў рыхтуюць і тэатральныя інстытуты — Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва імя А. В. Луначарскага (Масква, Собінаўскі завулак, 6), Ленінградскі інстытут тэатра, музыкі і кіно (Ленінград, вул. Махавая, 34), Харкаўскі інстытут мастацтваў (Харкаў, плошча Тэвелева, 11/13), тэатральнае вучылішча імя Шчукіна (Масква, вул. Вахтангава, 12-а), тэатральнае вучылішча імя Шчэпкіна (Масква, Пушачная вуліца, 2/6). Трэба мець на ўвазе, што названыя тут вучылішчы імя Шчукіна і імя Шчэпкіна, а таксама школа-студыя МХАТа з'яўляюцца вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, і прыём туды — пасля заканчэння 10 класаў.

Тэатральны факультэт, які рыхтуе акцёраў тэатра і кіно, ёсць і ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Для паступлення ў інстытут трэба мець закончаную сярэднюю адукацыю і, вядома, творчыя здольнасці. Паступаючыя здаюць уступныя экзамены па спецыяльнасці, па гісторыі СССР, па беларускай або рускай мове і літаратуры (сачыненне і вусна). Экзамены па спецыяльнасці — такія ж, як і пры паступленні ў Інстытут кінематаграфіі. Адрас Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута: 220012, Мінск-12, Ленінскі праспект, 81.

Акрамя інстытутаў, акцёраў кіно рыхтуюць і тэатральныя вучылішчы. Аднак, у Мінску і наогул у Беларусі, а таксама ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве такіх вучылішчаў ці іх аддзяленняў няма. Яны ёсць у г. Горкім (вул. Фігнер, 3-а), Саратаве (вул. Радзішчава, 24), Яраслаўлі (вул. Дэпутацкая, 15), Казані (вул. Гогаля, 2), Свярдлоўску (вул. Тальяці, 26-а).

Паступіць у тэатральнае вучылішча можна пасля заканчэння васьмі класаў. Умовы прыёму — такія ж, як і ў тэатральныя інстытуты.

У многіх пісьмах, якія прыходзяць у рэдакцыю, чытачы пытаюцца, якую байку ці верш трэба чытаць на экзаменах. Такія пісьмы сведчаць аб тым, што іх аўтары зусім не ўяўляюць сутнасці акцёрскай прафесіі. Справа ж не ў тым, што чытаць, а ў тым, як чытаць. Чытанне байкі, верша і ўрыўка прозы патрабуецца на экзаменах для таго, каб праверыць, ці ёсць у паступаючага акцёрскія здольнасці, як валодае ён сваім голасам, мімікай, жэстамі, ці ўмее перадаць думкі і пачуцці, закладзеныя ў мастацкім творы.

Пытаюцца яшчэ чытачы і аб тым, ці абавязкова для паступаючага ўмець спяваць і танцаваць. Вядома, танцы і песня заўсёды ўпрыгожваюць чалавека, асабліва акцёра, але для паступлення яны толькі пажаданыя, але не абавязковыя.

Больш падрабязныя ўмовы прыёму навучальныя ўстановы высылаюць па просьбе паступаючых.

Жадаем поспехаў!

# КАМАНДЗІРОЎКА Ў САНАТОРЫЙ

Асноўныя здымкі гэтай новай каляровай мастацкай кінакарціны праходзілі на Мінскім заводзе халадзільнікаў.

Фільм расказвае пра чалавека высокіх маральных якасцей, пра чалавека працы, для якога іменна працай вымяраецца чалавечая годнасць.

Паездка ў санаторый ператварылася для Багдасара ў камандзіроўку, у якую звычайна пасылаюць «штурхачоў». Але Багдасар па сваёй натуры «антыштурхач», а калі ён і дабіўся ўсяго, што патрэбна было яго заводу, то толькі дзякуючы сваёй шчырасці, добразычлівасці, чалавечнасці.

— Мне вельмі хацелася,— гаворыць рэжысёр-пастаноўшчык кінакарціны Аркадзь Айрапецян,— каб у вобразе гэтага простага, сумленнага чалавека-працаўніка глядач убачыў бы лепшыя рысы савецкага рабочага: яго боль за агульную справу, пачуццё гаспадара сваёй зямлі. Я ведаю такіх цудоўных людзей, яны ёсць і ў нас на прадпрыемствах Арменіі, і сярод рабочых Беларусі, на заводзе, дзе здымаўся фільм. Мы хацелі сказаць аб вялікай, непарушнай дружбе паміж савецкімі народамі, аб пачуцці інтэрнацыяналізму, якое ўсім нам уласціва.

У фільме здымаліся Харэн Абрамян, Вера Іўлева, Сяргей Плотнікаў, Антаніна Багданава, Міша Куцепаў, Фёдар Шмакаў, Галіна Макарава, Ігар Кашынцаў, Нерсес Аганесян, Раман Ткачук, Юрый Чарноў, Барыслаў Брандукоў і іншыя.

# РАСЧЫНІЦЕ ВОКНЫ

...Жыве ў маленькім грузінскім гарадку музыкант па імені Надар. Яму — гадоў пад сорак. Ён гранічна шчыры, даверлівы, за кожным, на першы погляд, іншы раз нават бязглуздым учынкам героя тоіцца шчыры і ўзвышаны намер: каб жылося людзям весела і радасна! І дзе б ён ні з'явіўся, там усюды спяваюць і танцуюць. Гэта апраўдана самім жанрам музычнага фільма, пабудаванага на цудоўных грузінскіх народных песнях і танцах.

І Надар не адзінокі: дабрата і талент, якія ён шчодра дорыць наваколным, прыцягваюць да яго сэрцы людзей. Такім паўстае перад намі герой фільма ў выкананні народнага артыста Грузінскай ССР Амара Мхеідзе. У ім ёсць і высакароднасць, і бескарыслівасць, і чуласць, якія і складаюць лепшыя рысы нацыянальнага характару.

Цікава праводзяць свае ролі таксама Дудухана Цэродзе, Нацiа Гагачуры, Шалва Херхеўлідзе, Зураб Капіянідзе і іншыя.

Новая каляровая мастацкая кінастужка створана рэжысёрам Дэві Абашыдзе на кінастудыі «Грузія-фільм» па сцэнарыю Рэваза Чайшвілі.



**Універсітэт кінагледача**

*Гутарка дваццаць другая*



# СВЕТ ФАНТАЗІІ І ФАНТАСТЫКІ

Фантастычныя фільмы з'явіліся адначасова з нараджэннем кінематографа. Яшчэ Жорж Мельес здзіўляў уяўленне гледачоў стужкамі «Падарожжа на Месяц», «З гарматы на Месяц» і дзесяткамі іншых трох-пяцімінутных фантастычных кінафеерый. У апублікаваных нядаўна ў часопісе «Искусство кино» пісьмах К. Э. Цыялкоўскага кінарэжысёру Васілю Жураўлёву, які прыступіў у 1933 годзе да здымак першага савецкага навукова-фантастычнага фільма «Касмічны рэйс», заснавальнік касманаўтыкі пісаў: «Фантастычныя расказы на тэмы міжпланетных падарожжаў нясуць новую думку ў масы... Яшчэ шырэй уплыў кінафільмаў. Яны больш наглядныя і бліжэй да прыроды, чым апісанне. Гэта **вышэйшая ступень мастацкасці...»**

У нашы дні жыццё непасрэдна даганяе фантастыку. Зусім неймаверныя ўчора з'явы сёння рэальныя і нават звычайныя. Вось чаму сучаснае жыццё і сучасная навука маюць патрэбу ў фантастыцы як у своеасаблівым каталізатары новых ідэй. З гэтай жа прычыны фантастыка становіцца і інструментам даследавання ўнутранага свету чалавека.

Але фантастыка бывае розная. Ёсць фантастыка навуковая і не навуковая (фантазія), фантастыка праблемная, філасофская ці, як яе яшчэ называюць,— «сацыялогія будучага» і фантастыка забаўная.

Найбольшую цікавасць у гледачоў выклікае, натуральна, навуковая фантастыка. Гэта цікавасць высокая і неадназначная, як не адназначны і сам глядач. Усіх прыхільнікаў фантастычнага жанру можна, умоўна вядома, падзяліць на тры тыпы. Першы тып — гэта людзі, якія чакаюць ад навуковай фантастыкі аналізу актуальных праблем сучаснага грамадства ў асаблівых, экзатычных, неймаверных умовах. Фантастычная, умоўная сітуацыя, лічаць яны, садзейнічае больш яркаму ўспрыйманню сённяшніх праблем.

Другі тып гледачоў валодае востра развітай цікавасцю да нявырашаных і невырашальных загадак жыцця. У навуковай фантастыцы яны бачаць спосаб дакрануцца да таямніц быцця, зазірнуць у «бездань», робячы, аднак, гэта падарожжа да таямніц у зразумелых умовах і жадаючы ўбачыць «бездань» больш ці менш пазнавальнай. Трэці тып гледачоў — свайго роду тэхнакраты, якія лічаць, што навуковая фантастыка павінна займацца толькі навуковымі праблемамі будучага.

Сёння ў рэпертуары нашых кінатэатраў усе тры тыпы гледачоў могуць знайсці **свой** фільм, гэта значыць, карціну, блізкую ім. Сёння фантастыка на экране — не рэдкая госця, а рэальная з'ява мастацтва.

Заваявалі прызнанне ўсіх гледачоў, незалежна ад таго, да якога тыпу яны адносяцца (паўтараем: гэты падзел гледачоў на тыпы — ўмоўны), такія значныя фантастычныя стужкі як «Масква — Касіяпея», «Падлеткі ў Сусвеце», «Маўчанне доктара Івенса», «Уцёкі містэра Мак-Кінлі», «За пяць мінут да катастрофы» і іншыя. Не сыходзяць з экранаў «Акванаўты», «Зорны інспектар», «Дазнанне пілота Піркса», «Атэль «У загінуўшага альпініста», «Праз церні да зорак». Шмат спрэчак выклікалі «Салярыс», «Сталкер» рэжысёра А. Таркоўскага — фільмы, у якіх фантастычны пачатак змыкаецца з філасофскім.

Чаму ж палюбіў глядач гэтыя карціны? За багацце фантазіі іх аўтараў? За выдумку? Вядома, не. Фантастыка — гэта зусім не спосаб выдумваць. Фантастыка — гэта спосаб думаць.

Быў час у пачатку тэхнічнага веку, калі ўяўленне фантастаў займалі перш за ўсё магчымасці бурнага развіцця навукі. Захопленасць Жуля Верна «Наўтылусам» настолькі вялікая, што і сёння мы адчуваем магнетычную абаяльнасць гэтага захаплення тэхнікай. Неўзабаве думка аб навуковым прагрэсе стала звычайнай. Рушыліся гарады пад промнем гіперболоіда, гінулі рабочыя на будаўніцтве тунеля пад Атлантыкай, пакутвала ад нерухомасці галава прафесара Доуля... Але пісьменнікі-фантасты А. Талстой, А. Бяляеў, Б. Келерман, а за імі і кінематаграфісты, якія экранізавалі іх творы, адвялі тэхнічную фантастыку на другі план. Іх сюжэты разгортваліся ў дакладна вызначаным грамадскім асяроддзі, выражаючы тым самым настроі сучаснікаў. Фантазія, авантурная фабула, была «рамай» для дзеяння зусім рэальнага — сацыяльнага, палітычнага і псіхалагічнага.

Сёння нікога не здзівіш карцінамі, якія паказваюць кардонныя зоркалёты на экране — сігналы з космасу мы прымалі ўжо сваім тэлевізарам. Можна выдасканальваць тэхнічны бляск і дынаміку кінавідовішча, як гэта робіцца, скажам, у баевіку «Дазнанне пілота Піркса» або больш сціплай стужцы «Планета бур». Аднак бясконца гэты працэс пра-

**Кадр з фільма «Масква — Касіяпея».**



**Кадр з фільма «Планета бур».**



цягвацца не можа. Фантастыка не павінна выцясняць з фільмаў зямныя справы. Калі губляецца сувязь з зямным, фантастыка, якой бы яна ні была тэхнічна дасканалай, вяне і гасне. Як бы ні хацелася зазірнуць, скажам, у грамадства будучага, але на практыцы яго можна адлюстраваць толькі прадоўжыўшы, трансфарміраваўшы, развіўшы рысы і тэндэнцыі таго, што існуе сёння. І гэта будзе не толькі матэрыялізаваная на экране мара, але і своеасаблівы аналіз нашага сёння.

Так, фантастыка па-свойму адлюстроўвае сучасную свядомасць — у формах эксперыментальных. Яна адпавядае патрэбе чалавека пазнаваць новае, прадбачыць далейшы ход працэсаў, што адбываюцца ў грамадстве. І засцерагаць будучыню ад памылак, як гэта добра паказана на прыкладзе з планетай Дэса ў фантастычнай карціне «Праз церні да зорак».

Навукова-фантастычныя фільмы рабіць вельмі цяжка. Аб гэтым заўсёды гаварылі і гавораць кінематаграфісты-фантасты. І цяжкасці тут не тэхнічныя. Па сутнасці ж кіно можа зняць усё — і глыбокую старажытнасць, і прылёт іншапланецян, і іншыя светы і галактыкі, і многае, многае іншае.

Такі прыклад. Калі дзеянне сцэнарыя адбываецца, скажам, у вугальнай шахце, рэжысёру, які хоча зрабіць па гэтаму сцэнарыю фільм, не трэба пытаць у драматурга ні пра якія дэталі, што датычаць збудавання шахты, знешняга выгляду гарнякоў, адносін паміж імі і г. д. Ён можа звярнуцца да спецыялістаў, а можа і сам спусціцца ў шахту. Калі робіцца карціна на гістарычным матэрыяле, напрыклад, пра бітву на полі Куліковым, рэжысёру не трэба прыдумваць знешні выгляд тагачасных людзей, даўнія касцюмы, кальчугі, шлемы, мячы, шатры і г. д. Тут пастаноўшчыку дапамогуць гісторыкі і ён зможа рэканструяваць вобразы мінулага да апошняй дэталі.

Але калі ў сцэнарыі гаворыцца пра палёт да зорак, як гэта было паказана, напрыклад, у фільме «Зорны інспектар», або аб сустрэчы на іншай планеце з разумнымі істотамі, якія не з'яўляюцца людзьмі («Праз церні да зорак») або аб далёкім будучым зямнога горада («Салярыс»), адзінай крыніцай інфармацыі для кінематаграфістаў становіцца сцэнарый — тэкст. Вядома, ні адзін твор не можа замяніць энцыклапедычнага ведання пра незлічоныя дэталі ўсіх з'яў, рэчаў, звычаяў, якія павінны быць паказаны ў карціне. А паколькі не існуе ні фатоннай ракеты, здольнай паляцець да зорак, ні параўнальнай антрапалогіі іншых цывілізацый, ні навукі аб гарадах, скажам, 2900-га года, усё да апошняй дэталі ў фільме трэба проста прыдумаць. А гэта не так лёгка. Больш таго, часта гэта становіцца немагчымым.

Справа яшчэ і ў тым, што элементы чыста тэхнічныя лягчэй прыдумаць, чым тып адзення, архітэктуры, знешні выгляд іншых істот, адносіны паміж людзьмі ў 2900-м годзе і г. д. Таму лепшыя навукова-фантастычныя стужкі, прынамсі лепшыя з тэхнічнага пункту гледжання, як, напрыклад, усё той жа «Салярыс» А. Таркоўскага, найбольш дасканалыя ў паказе тэхнікі будучага. У той жа час прыдуманае мужчынскае або жаночае адзенне будучага ў фільме можа выглядаць дзіўна, а калі ўявіць, што трэба спраектаваць і прадметы абстаноўкі — дзверы, вокны, мэблю, адзенне, прадметы быту, то становіцца зразумелым, што задача, якую трэба вырашыць, заснавана на стварэнні цэлай культуры, уласцівай яшчэ не існуючай эпосе, разам з яе маральнымі пазіцыямі і нават з яе мастацтвам.

Такім чынам, фантастыка — гэта ў некаторай ступені прароцтва. Нездарма вядомы англійскі пісьменнік Олдас Хакслі неяк заўважыў, што ўсе прароцтвы цікавыя тым, што праліваюць святло на эпоху, якая іх нарадзіла. Так ідэалы сур'ёзнага і вельмі інтэлігентнага англічаніна могуць быць вывучаны ва ўсім працэсе іх развіцця на фантастычных раманах Герберта Уэлса. Наша ўяўленне аб будучым валодае тым значэннем, што пэўным чынам адлюстроўвае нашы сучасныя пачуцці і надзеі.

Ці накіроўваюць фантасты сваіх гледачоў у космас, у будучае або вяртаюць іх у далёкае мінулае, ці сутыкаюць іх з іншапланецянамі або з жахлівымі страшыдламі — усё роўна фантастыка застаецца на зямлі і гаворыць аб надзённых зямных і сучасных праблемах, трывогах і надзеях нашага свету. Аднак, ствараючы сваю фантастычную мадэль будучыні, сцэнарыст і рэжысёр-пастаноўшчык фантастычнай карціны карыстаюцца, вядома, большай мерай умоўнасці. Тут яны больш свабодна выказваюць свае ідэі, паколькі ўлада матэрыялу тут праяўляецца менш, чым у творах аб рэальных сённяшніх падзеях.

Фантастычныя фільмы заўсёды, ва ўсіх краінах карысталіся вялікім поспехам у гледачоў. Напэўна, таму, што лепшыя з іх, па-сапраўднаму навукова-фантастычныя, а не проста забаўныя, ярка адлюстроўваюць трывогі і надзеі сучаснага свету, дазваляюць у нейкай ступені зазірнуць у будучыню.

**Кадр з фільма «Салярыс».**





**Кадр з фільма «Маўчанне доктара Івенса».**

# КІНО—ДЗЕЦЯМ

## ПАЛЕПШЫЦЬ ПАКАЗ КІНАФІЛЬМАЎ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ЮНАЦТВА

Прыйшла вясна, у школах заканчваюцца заняткі. Але не спыняецца выхаваўчая работа з дзецьмі. Летам яна вядзецца ў піянерскіх лагерах — гарадскіх і выязных і па месцу пражывання школьнікаў. Летнія канікулы — спрыяльны час для ідэйна-маральнай загартоўкі юнага пакалення, для шырокага далучэння яго да свету мастацтва. І незаменную дапамогу можа тут аказаць выхавацелям кіно.

Велізарныя выхаваўчыя магчымасці самага масавага з мастацтваў агульнавядомы. Яны сапраўды бязмежныя. Вось чаму XXVI з'езд КПСС паставіў задачу палепшыць кінаабслугоўванне насельніцтва, больш шырока выкарыстоўваць творы кінамастацтва ў навучальнай і выхаваўчай рабоце. А ў канцы мінулага года ЦК КПСС прыняў пастанову «Аб паляпшэнні вытворчасці і паказу кінафільмаў для дзяцей і падлеткаў». Яна абавязвае нас узмацніць увагу да дзіцячага кіно, больш шырока выкарыстоўваць яго велізарныя эстэтычныя і педагагічныя магчымасці.

Пастанова арыентуе кінематаграфістаў, работнікаў кінафікацыі і кінапракату, органы народнай асветы і камсамольскія арганізацыі на неабходнасць далейшага развіцця кінамастацтва, адрасаванага дзецям і падлеткам, на больш шырокае развіццё сеткі дзіцячых і школьных кінатэатраў, на мэтазгоднасць увядзення кінаадукацыі ў школах, тэхнікумах і ВНУ.

Сапраўды, кіно — адзін з самых любімых дзецьмі відаў мастацтва. Але каб яго велізарныя выхаваўчыя магчымасці рэалізаваліся з максімальнай эфектыўнасцю, неабходна, каб вучні ўспрымалі не толькі падзейную канву фільма, а ўсю сукупнасць яго мастацкіх сродкаў. Таму дзяцей трэба вучыць глядзець кіно.

Кожны год у нашай краіне для дзяцей і юнацтва выпускаецца 25—30 мастацкіх фільмаў. Акрамя таго, не сходзяць з экранаў большая частка дзіцячых кінакарцін, створаных за ўсе папярэднія гады. Да гэтага трэба дадаць вялікую колькасць дакументальных і навукова-папулярных кінакарцін, якія кожны месяц выходзяць на экран і таксама могуць і павінны выкарыстоўвацца ў рабоце з дзецьмі. Такім чынам, фонд кінакарцін для дзяцей і юнацтва складае сотні фільмаў.

Магчымасці нашы вялікія, трэба толькі іх максімальна выкарыстоўваць. Кінафікатары і работнікі кінапракату, настаўнікі і органы народнай асветы абавязаны паклапаціцца, каб расшырыць летам паказ фільмаў для дзяцей і падлеткаў як па месцу іх пражывання, так і ў піянерскіх лагерах — выязных і гарадскіх. Для гэтага трэба шырэй выкарыстоўваць такія выпрабаваныя формы кінапаказу як кінаклубы і кіналекторыі самай разнастайнай тэматыкі, кінафестывалі, тыдні дзіцячага і юнацкага кіно, тэматычныя паказы, прымеркаваныя да знамянальных дат у жыцці краіны, кінаранішнікі і кінавікарыны.

З 14 па 19 мая ў рэспубліцы, як і па ўсёй краіне, будзе праходзіць традыцыйны Усесаюзны тыдзень дзіцячага фільма. Сёлета ён праводзіцца пад дэвізам «Радзіма — дзецям» і прысвячаецца 60-годдзю ўтварэння СССР і 60-годдзю Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна. У праграму кінатыдня павінны быць уключаны ўрачыстыя і юбілейныя кінасеансы, тэматычныя паказы «Адзінай дружбай моцныя», «У брацкай сям'і раўнапраўных», «Вечна жывы», «60 палымяных піянерскіх гадоў», «Падарожжа ў краіну Піянерыю», «Піянеры-героі навечна ў страі», «З намі Гайдар», «Мы верная змена твая, камсамол!».

Важнае месца ў час тыдня трэба ўдзяліць арганізацыі прэм'ер фільмаў «Аляксандр маленькі», «Васёк Трубачоў і яго таварышы» (паўторны выпуск), «Застаюся з вамі», «Ветразі майго дзяцінства», «Цімур і яго каманда» (паўторны выпуск), «Выдра па імені Тарка», «Дванаццаць месяцаў», «Дзяўчынка з сінім ранцам», «Драпежнік».

На ўрачыстыя і юбілейныя паказы фільмаў трэба запрашаць ветэранаў вайны і працы, работнікаў мастацтваў, дзіцячыя аркестры, калектывы мастацкай самадзейнасці.

Вопыт, набыты ў час правядзення кінатыдня, і лепшыя формы арганізацыйнай работы трэба выкарыстаць для далейшага паляпшэння паказу фільмаў для дзяцей і ў час летніх канікул, і ў новым навучальным годзе.

Асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на паказ дакументальных і навукова-папулярных фільмаў, і ў першую чаргу такіх значных як кінаэпапеі «Вялікая Айчынная» і «За ўсё даражэй». Сілу эмацыянальнага ўздзеяння іх на гледачоў усіх узростаў цяжка пераацаніць.

Належнае месца ў кінапаказе павінны таксама заняць праграмы пазнавальных стужак, у тым ліку кінаальманахі «Гарызонт», «Зорачка», «Маленькія цуды вялікай прыроды», «Хачу ўсё ведаць», «Альманах кінападарожжаў», гумарыстычны кіначасопіс «Ералаш».

Думаецца, што дружнымі сумеснымі намаганнямі стваральнікаў фільмаў, работнікаў кінафікацыі і кінапракату, органаў народнай асветы, настаўнікаў, камсамольскіх арганізацый пастаўленая ЦК КПСС задача — узняць на прынцыпова новы ўзровень вытворчасць і паказ фільмаў для дзяцей і юнацтва — будзе паспяхова вырашана.

---

# НАВІНЫ ДАКУМЕНТАЛЬНАГА ЭКРАНА

Вырашэнню адной з асноўных народнагаспадарчых задач прысвечан каляровы дакументальны фільм **«Якасць прадукцыі — клопат агульны»**. Як сведчыць практыка, важную ролю тут павінны адыграць комплексныя сістэмы кіравання якасцю прадукцыі. Кінакарціна і расказвае, як працуюць такія сістэмы ў Маскве, аб арганізацыйных і тэхнічных мерах, якія стымулююць выпуск высакаякаснай прадукцыі.

Надзённая праблема сучаснай эканомікі разглядаецца і ў каляровай навукова-папулярнай стужцы **«Беражыце метал!»**. У фільме паказаны канкрэтныя тэхналагічныя і канструкцыйныя прыёмы, якія вядуць да больш ашчаднага выкарыстання важнейшага прамысловага прадукту — металу.

Нялёгкая і складаная праца будаўнікоў. Яшчэ больш праблем узнікае ў сельскім будаўніцтве. Аб тым, як яны вырашаюцца, расказвае на прыкладзе адной брыгады канчатковай прадукцыі каляровая дакументальная кінакарціна **«Паверхі брыгады Траўкіна»**. Мы становімся ўдзельнікамі зацікаўленай размовы аб надзённых праблемах сучаснага будаўніцтва, аб шляхах павышэння яго эфектыўнасці і якасці, аб маральных праблемах рабочага калектыву.

Жыццю і дзейнасці выдатнага савецкага авіяканструктара, стваральніка звышгукавых самалётаў-знішчальнікаў Арцёма Іванавіча Мікаяна прысвечан каляровы навукова-папулярны фільм **«Такое імклівае жыццё»**. Крылатыя машыны яго канструкцыі ахоўваюць наша неба. А створанае ім канструктарскае бюро, яго сябры, яго вучні сёння працуюць над новымі, яшчэ больш дасканалымі машынамі заўтрашняга дня.

У апошні час усё большае пашырэнне набывае новая форма сувязі навукі і практыкі — навукова-вытворчыя аб'яднанні. На прыкладзе некалькіх такіх аб'яднанняў каляровая навукова-папулярная стужка **«Ад пошуку да ўкаранення»** раскрывае прынцыпы іх арганізацыі і работы, паказвае адзін з важнейшых напрамкаў сучасна-эканамічнай палітыкі — сувязь навукі і практыкі ў сельскай гаспадарцы.

«Хто ўстаў з першымі промнямі сонца, той разам з ім многае ўбачыць»,— гаворыць афганская прыказка. Так, сапраўды разам з аўтарамі каляровага фільма **«Афганістан. Раніца рэспублікі»** мы шмат убачым. На вуліцах і плошчах Кабула мы ўбачым, як скрозь звычкі старога ўкладу ўпэўнена прабівае сабе дарогу новае жыццё. Многае зроблена, многае трэба зрабіць, а галоўнае — абараніць народныя здабыткі ад ворагаў рэвалюцыі.

Пра сённяшні дзень Кампучыі, пра мірнае жыццё яе шматпакутнай зямлі, пра яе маленькіх грамадзян і іх маці расказвае каляровая дакументальная стужка **«Яны дзякуюць лёсу»**.

Сённяшні Ноўгарад — гэта дакладнейшыя прыборы, электронная апаратура, прадукцыя вялікай хіміі. Але мы ведаем і іншы Ноўгарад — старэйшы рускі горад, своеасаблівы музей помнікаў архітэктуры і мастацтва старажытнай Русі, які становіцца буйнейшым цэнтрам турызму. Пра сённяшні дзень і гістарычнае мінулае горада расказвае каляровы дакументальны фільм **«Ноўгарад»**.

Убачаць гледачы і іншыя стужкі — каля трох дзесяткаў новых дакументальных і навукова-папулярных фільмаў выходзіць на кінаэкраны рэспублікі ў маі.

*Па просьбе нашых чытачоў*

# УЛАДЗІМІР ВЫСОЦКІ

**Рэдакцыя атрымлівае шмат пісьмаў, у якіх нашы чытачы просяць расказаць пра Уладзіміра Высоцкага, пра яго работу ў кіно. Выконваем іх просьбы.**

Шлях Уладзіміра Высоцкага ў кіно складваўся знешне добра, а па сутнасці — марудна і цяжка. Цэлае дзесяцігоддзе пайшло на разгон, на эпізоды, на хлопцаў з гітарамі, на простых і мужных «сапраўдных мужчын». Потым пайшлі барды — з тварам і голасам Высоцкага, чыёй галоўнай функцыяй было праспяваць песню ў кадры. Па сутнасці гэта былі не акцёрскія работы, а канцэртныя нумары. Прычым бывала і так, што песня і яе выканаўца аказваліся і больш значнымі і важнымі, чым увесь фільм у цэлым.

Але вось памяць выдзяляе больш чым дзесяцігадовай даўнасці ролю, пранізлівы і злосны матыў якой стаў рэхам усё той жа тэмы «чалавек і час». Гэта паручнік Брусянцоў з фільма Е. Карэлава «Служылі два таварышы». Акцёрам тут сыграна ледзь не ўдвая больш за тое, што дадзена было матэрыялам ролі. Перад намі — цэлы лёс расійскага афіцэрства. Павадкамі і выпраўкай, усім строем сваім Брусянцоў — кадравы афіцэр. Гадамі зусім не хлопчык, а чын — толькі паручык. І пачынаеш дадумваць яго лёс. Мы бачым за яго лютасцю — адчай, за непрымірымасцю — зацкаванасць, за неўтаймоўнасцю — надрыў душы.

Дзве трагічныя кропкі суджана было Брусянцову паставіць у фільме. Першая,— калі ў злосці і бяссіллі ўласнай пакінутасці пашле ён апошнюю кулю са снайперскай вінтоўкі ў спіну выпадковаму чырвонаармейцу. На бяду ім акажацца Някрасаў — той, што нядаўна адвёў кулю ад Брусянцова. Другая,— калі на адплываючым у эміграцыю параходзе ён убачыць у натоўпе роспачныя вочы жанчыны, якая засталася там, у чужой ужо Расіі. Убачыць, як конь, верны друг, кінуўся з берага уплаў за гаспадаром, і выстраліць сабе ў скроню.

Іменна дзякуючы У. Высоцкаму увогуле банальная гісторыя паручыка Брусянцова вырастае ў горкі расказ пра значную асобу ў махавіку гісторыі.

Беручыся за ролю, якая мела хоць бы намёк на «праклятыя» спрадвечныя пытанні, У. Высоцкі сілай уласнай індывідуальнасці выцягваў гэтыя пытанні на свет і даваў ім сваё тлумачэнне. Адбітак яго асобы на такіх работах незабыўны. «Правільны чалавек» фон Корэн з экранізацыі чэхаўскай «Дуэлі» (фільм І. Хейфіца «Дрэнны добры чалавек») аказваўся ў Высоцкага ўвасабленнем якраз той душэўнай і духоўнай глухаты, з якой і пачынаецца ўсё самае страшэннае. Момант разумення, момант разбурэння ўпэўненасці ва ўласнай справядлівасці становіцца для Корэна не проста крахам сістэмы каштоўнасцей, але і чалавечым крахам.

А вось больш блізкі нам герой — маёр Жаглоў з дэтэктыву «Месца сустрэчы змяніць нельга», адной з апошніх кінаработ У. Высоцкага. Жаглоў фанатычна апанаваны ідэяй служэння сваёй справе, верыць у яе свята і непадзельна. Ідэя «ўсе сродкі добрыя», не абцяжараная маральнымі меркаваннямі, у Жаглова ўсеабдымная: не раздумваючы, ён падкіне украдзены кашалёк у кішэню злодзею, падставіць сябе пад кулю.

Высоцкі надаў сваім фон Корэну і Жаглову тую «спячую мараль», якая, прачнуўшыся, здольна, аказваецца, нанесці цяжкі ўдар па ўсёй сістэме каштоўнасцей, збудаванай чалавекам у сабе без уліку гэтай маралі.

Дзве лепшыя кінаработы У. Высоцкага звязаны з творчасцю А. С. Пушкіна.

У ярка-стракатым, амаль лубачным «Сказе пра тое, як цар Пётр арапа жаніў» У. Высоцкі сыграў зусім нечаканае — пушкінскі лёс, тэму самога паэта. Што б там ні гаварылася аб калектыўнасці стварэння фільма, аб ролі рэжысуры, гэты вобраз і гэта тэма належаць асабіста У. Высоцкаму і толькі. Яго Ганібал супярэчыць фільму гэтак жа, як і эпосе, у якой жыве. Высоцкі тут іграе інтэлігента найвышэйшай духоўнасці ў эпоху бурную і крывавую, стваральную і бязлітасную. Чалавека, адасобленага ад яе самім сваім душэўным ладам, стылем існавання, усёй сістэмай пачуццяў. Яго Ібрагім — прышэлец з іншага свету і часу, і патанае ён у атмасферы чужой і страшэннай, якая не ведае кампрамісу і ламае, перастройвае чалавека пад сябе. Ён асуджан на неразуменне. Высоцкі сыграў бескампраміснасць асобы, роўную бескампраміснасці эпохі, калі нельга, немагчыма адмовіцца ў сабе нават ад дробязі.

А куды прасцей было б прыняць умовы ігры, якая яму навязваецца, і тады — знясцё няміласці, шчасце, пашана. І тады нават можна будзе дазволіць сабе апазіцыйнасць, афіцыйна прызнаную ў выглядзе мілага дзівацтва царскага фаварыта. Але выбар зроблен раз і назаўсёды.

Бадай, ніколі раней вочы артыста не былі люстрам душы героя ў такой ступені, як тут. У іх прачытвалася ўсё — мінулае, сучаснае і будучае, вера, разуменне асуджанасці, напружанасць духоўнай самааддачы і смутак прадбачання. Яго Ібрагім быў не да месца і не да часу ў эпоху, якой больш былі патрэбны карабельныя майстры, чым філосафы і паэты. Ён аказаўся «прарокам у сваёй айчыне», але голас яго патанаў у рогаце і неразуменні. Нашчадкам і братам такога Ібрагіма мог быць найвялікшы паэт Расіі.

Дон Гуан з «Маленькіх трагедый» А. С. Пушкіна таксама быў паэтам. Рызыкнём сцвярджаць, што ў творчасці У. Высоцкага, які сыграў Гамлета і Галілея, ніколі раней тэма проціборства лёсу, процістаяння жывой чалавечай асобы мёртвым, абыякавым, грубым сілам не паўставала з такой вастрынёй. Выклік, кінуты дон Гуанам недасканаласці свету, лёсу і смерці, у Высоцкага станавіўся раўназначнай спрэчкай. Раўназначнай таму, што чалавек у ёй плаціў, не таргуючыся, па самаму высокаму рахунку.

Усёпаглынаючым пачуццём дон Гуана, бадай, было зусім не каханне. Каханне было часткай той велізарнай платы, той найвышэйшай цаны, якую чалавек назначыў за неўміручасць свайго духу, за непадпарадкаванне яго сіле, якая абязлічвае чалавека. У выніку — спрадвечная, як свет, трагедыя, у якой герой пагублен, але не пераможан.



Чалавек памірае, і аб ім памятаюць і мяркуюць па тым, што ім пакінута. Высоцкім пакінута шмат. Пласцінкі з яго песнямі, магнітафонныя стужкі, кінафільмы захавалі не проста песні і ролі, аблічча і голас Высоцкага, нават не проста вобраз мастака,— яны даносяць да нас асобу. Асобу чалавека, спевака, паэта, артыста, грамадзяніна Уладзіміра Высоцкага. Ён жыў у мастацтве, укладваючы ў свае творы актыўнасць, палымянасць сваёй светапогляднай пазіцыі і найвялікшую шчырасць уласнага чалавечага быцця. Такім чынам, ён пакінуў нам у спадчыну не проста песні і ролі, ён пакінуў самога сябе.

# ЗАРУБЕЖНЫЯ ФІЛЬМЫ

Маральную праблему ўзнімае балгарскі рэжысёр Тодар Стаянаў у фільме **«МІЛАСЦЬ ДА ЖЫВЫХ»**, пастаўленым па сцэнарыю Мікалая Нікіфарава.

...Сустракаюцца два таварышы, якія шмат гадоў не бачылі адзін аднаго. Яны разам удзельнічалі ў час вайны ў Супраціўленні, але ў мірныя дні не сустракаліся. Стэфан застаўся ў вёсцы, а Андрэй стаў славутым хірургам. І вось цяпер Андрэй павінен апераваць Стэфана, у якога выяўлен рак страўніка. Але нават цяпер, ведаючы, што ён асуджан, Стэфан замест таго, каб ляжаць у бальніцы, выкарыстоўвае апошнія свае дні, каб дапамагчы знаёмым і незнаёмым людзям.

Ролі выканалі Георгій Георгіеў-Гец, Коста Цонеў, Цвятана Манева, Нікола Тодзеў, Барыс Луканаў, Мілка Сулейманава, Дзімітрына Савава.

Фільм **«СВІТАННЕ ПРАЦЯГВАЛАСЯ ЎСЮ НОЧ»**, прысвечаны героям Пражскага паўстання ў 1945 годзе, паставілі чэхаславацкія кінематаграфісты Вацлаў Мацейка і Драгаслаў Маковічка. Расказвае ён аб драматычнай барацьбе жыхароў Прагі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, аб брацкай дапамозе, аказанай паўстаўшым савецкімі войскамі.

...Санітарная машына з цяжкапараненымі чэшскімі байцамі трапляе ў размяшчэнне праціўніка. Фашысты згаджаюцца прапусціць машыну ў абмен на ўрача і медсястру, якім давядзецца аказаць медыцынскую дапамогу раненым нямецкім салдатам. Героі фільма — доктар Соўкуп і медсястра Даніэла — прымаюць гэту прапанову і апынаюцца ў будынку занятай фашыстамі гімназіі. Знаходзячыся сярод ворагаў і цяжка пераўжываючы немагчымасць дапамагчы сваім суайчыннікам, Соўкуп і Даніэла ўсё ж захоўваюць вернасць клятве Гіпакрата.

А дзеянні чэшскіх патрыётаў, якія штурмуюць гімназію, цяпер ускладняюцца тым, што байцы павінны клапаціцца аб бяспецы ўрача і медсястры.

Кароткія перапынкі змяняюцца новымі намаганнямі нахаў выбіць фашыстаў з гімназіі. Падаспеўшыя на дапамогу паўстаўшым часці Савецкай Арміі вызваляюць Прагу. Пасля заканчэння баёў Соўкуп вяртаецца да сваёй працы ў бальніцы.

У фільме зняліся Францішак Немец, Яна Гірава, Ханьо Хасе, Клаус-Дзітэр Клебш, Петр Ганічынец, Йозэф Ветравец, Іржы Бартошка, Яўген Жарыкаў, Барыс Токараў, Яўген Шутаў.

Кубінскі рэжысёр Серхіо Хіраль паставіў па сцэнарыю, напісанаму сумесна з Хорхе Саталонга і Раберта Бланка, кінакарціну **«МАЛУАЛА»**. У ёй расказваецца аб барацьбе жыхароў кубінскай вёсачкі супраць іспанскіх заваёўнікаў у XIX стагоддзі.

Мяцежныя вёскі — Малуала, Бумба, Мала Эспіна, Ла Пальма і іншыя не даюць спакою імператару Эскудзьера. Іх жыхары аказваюць узброенае супраціўленне іспанскім войскам. І атраду капітана Фраместы не ўдаецца перамагчы паўстанцаў, якія выставілі лозунг: «Зямля і свабода!». Каланізатары прыкладалі шмат намаганняў, каб падавіць супраціўленне народа, але ўсё дарэмна.

Пад страхам катавання іспанцы прымушаюць Луіса — аднаго з былых правадыроў паўстанцаў паказаць войскам дарогу ў Малуалу. Але атрад трапляе ў засаду і церпіць паражэнне. Малуала застаецца непераможнай...

Ролі выканалі Самуэль Клакстон, Раберта Бланка, Адольфа Лаурада, Мігель Навара, Мігель Гуцьерэс, Ніколас Рэйноса, Рауль Памарэс.

**«ДАРОГАЙ ПАКУТ І ГНЕВУ»** — так называецца кінастужка румынскага рэжысёра Дору Настасе, створаная па сцэнарыю Еуджэн Барбу і Нікалае Паул Міхаіла. У гэтай прыгодніцкай кінакарціне расказваецца аб тым, як пагоня за скарбамі прыводзіць чалавека да здрады і гібелі.

...Каралеўская Румынія XIX стагоддзя. Некалькі членаў тайнага таварыства павінны даставіць сваім паплечнікам вялікую суму грошай для набыцця зброі. Цяжкі шлях іх пад гарачым сонцам ускладняецца няспынными сутычкамі з жандарамі.

У ролях выступілі Фларын П'ерсік, Марга Барбу, Іон Марынеску, Юрые Дарые, Рэнус Мэрджыняну, Эрнест Мафцей, Тома Дзімітрыу.

На кінастудыі ДЭФА ў ГДР рэжысёр Вальтэр Бек зняў па сцэнарыю Розеля Кляйна фільм **«ДРАПЕЖНІК»**.

...У маленькай нямецкай вёсцы жылі два неразлучных сябры-шасцікласнікі — Раланд і Гуго. Аднойчы на беразе лясного возера яны выявілі адбіткі буйных лап невядомага ім звера. Дзеці вырашылі злавіць рэдкага для гэтых мясцін драпежніка, каб падарыць яго заапарку. Дарослыя паставіліся да паведамлення пра ваўка з усёй сур'ёзнасцю. Некалькі мужчын неадкладна накіраваліся на паляванне. Але доўга спробы выявіць ваўка заканчваліся няўдачай. І тады драпежніку была аб'яўлена ўсеагульная вайна. Раніцай пачалося вялікае паляванне. Раланд і Гуго, назіраючы з вышкі, марылі, каб воўк трапіў не на прыцэл паляўнічых, а ў іх клетку. Так і здарылася: галодны драпежнік апынуўся ў пастцы. Да ўсеагульнага задавальнення звера накіравалі ў заапарк.

У фільме зняліся Ханьо Мендэ, Міхаэль Гізелер, Томас Лангхоф, Гюнтэр Фрыдрых, Хольгер Маліх, Дзітэр Він, Мадэлен Лірк і іншыя.

Французскі рэжысёр Мішэль Ланг паставіў па свайму сцэнарыю кінастужку **«УСЕ ЗОРКІ»**.

...Трупа маладых танцораў і спевакоў з Парыжскай кансерваторыі марыць паставіць музычную камедыю ўласнага сачынення. Пасля шматлікіх цяжкасцей яны знаходзяць прадзюсера, які згодзен узяць іх сцэнарый. Аднак у ходзе работы ён змяняе сцэнарый і робіць пастаноўку, якая з трэскам праваліваецца. І зноў бясконцыя пошукі... Але ўся гісторыя заканчваецца шчасліва, і трупа накіроўваецца на Брадвей са спектаклем.

Ролі выканалі Даніэль Чэкальдзі, Рэмі Ларан, Кіці Кортэс-Лінч, Францука Піно, Жэром Фулон, Клод Свека, Колет Тэсэдр, Роберт Вебер, Леслі Карон.

Іспанскі рэжысёр Рафаэль Рамера Марчэнт зняў па сцэнарыю Антоніа Ларэта кінастужку **«ЗАГАДКА СТАРАЖЫТНАЙ КНІГІ»**. Дзеянне гэтага прыгодніцкага фільма адбываецца ў XIX стагоддзі.

...Аукцыён у Кардове. Вядомы іспанскі антыквар і англійскі лорд вядуць напружаны торг за чарговую старажытную рэч. Нарэшце, названа апошняя цана, і кніга арабскага вучонага-батаніка прададзена за цэлы скарб. Але англічанін, які купіў кнігу, паплаціўся за яе жыццём. Ён быў забіт, а кніга выкрадзена... А аб тым, якія перыпетыі адбыліся далей з кнігай і яе новымі ўладальнікамі, гледачы ўбачаць самі, калі паглядзяць гэты фільм.

У ролях — Санчо Грасія, Агата Ліс, Хасэ Санчо, Альвара дэ Луна, Эдуарда Гарсія, Вальтэр Відартэ, Сара Лесана.

**«ДЗЯЎЧЫНКА З СІНІМ РАНЦАМ»** — кінакарціна мексіканскага рэжысёра Рубена Галіндо, пастаўленая па сцэнарыю, напісанаму ім сумесна з Карласам Вальдэмарам.

...Дзесяцігадовая Амі жыве ў свайго састарэлага дзядзькі Андрэса. Ёй даводзіцца адной весці гаспадарку, таму ў дзяўчынкі не хапае часу сачыць за сабой. У школе ўсе з яе смяюцца. Толькі аднакласнік Рауль кожны дзень пасля школы праводзіць яе дадому і дорыць дзяўчынцы вялізную чырвоную ружу. Стойка выносіць Рауль гнеў маці, насмешкі вучняў і не дае сваю сяброўку ў крыўду. Але калі б ведалі гэтыя дзеці, якія выпрабаванні ім яшчэ трэба перанесці...

Спярша няшчасце напаткала сям'ю Рауля. Яго бацька з прычыны раптоўнай хваробы становіцца інвалідам. Каб дапамагчы сям'і хлопчыка, Андрэс вырашае выйсці ў мора на рыбную лоўлю. У памочнікі ён бярэ Амі і Рауля. Шторм перакуліў баркас, і толькі Андрэс з Раулем дабраліся да берага. Але здарыўся цуд: Амі падабраў у адкрытым моры катэр. Усё паселішча выйшла на бераг сустракаць дзяўчынку.

У фільме зняліся Адальберта Марцінес, Педрыта Фернандэс, Марыя Рэбека, Моніка Прадо, Марыо Сід, Федэрыка Фалькон, Хасэ Луіс Эстрада, Ханет Мас, Ірма Ласана.

На кінастудыі «Аль-Ахрам» у Егіпце кінематаграфісты Абдэль Мохі Адзіб і Ніязі Мустафа стварылі кінастужку **«ЗАНАДТА ЮНАЯ ДЛЯ КАХАННЯ»**. Гэта музычная кінакамедыя.

...Егіпецкае тэлебачанне аб'яўляе конкурс на выкананне дзвюх жаночых ролей — 14-гадовай дзяўчынкі і дзяўчыны 21 года. Саміса 21 год, але яна выглядае зусім юнай. Надзеўшы вопратку падлетка, яна праходзіць конкурс. Рэжысёр перадачы і дырэктар тэлебачання заключаюць з ёй кантракт. Але гэты дакумент за непаўналетнюю павінен падпісаць нехта з дарослых. Тады Саміха, пераапрануўшыся, называе сябе старэйшай сястрой дзяўчынкі і падпісвае кантракт.

Шмат забаўных прыгод перажылі ўсе героі фільма. Калі ж, нарэшце, усё высветлілася, рэво было ўжо падрыхтавана. Саміха сыграла ў ім і дзяўчынку, «занадта юную для кахання», і дарослую дзяўчыну. Перадача мела велізарны поспех. А рэжысёр і актрыса, як і трэба было чакаць, сталі мужам і жонкай.

Ролі выканалі Суад Хусні, Рушдзі Абаза, Зейнаб Сідкі, Шарлі Кясіб, Салія Шукры, Самір Гашым, Мустафа Гашым.

Японскі рэжысёр Кіміо Ябукі паставіў па казцы Самуіла Маршака кінастужку **«ДВАНАЦЦАЦЬ МЕСЯЦАЎ»**. Яркім мультыплікацыйным фільмам вяртаецца да нас цудоўная зімовая казка Маршака, якая заваявала любоў дзяцей усяго свету. Нам застаецца дадаць, што сцэнарый фільма напісалі Тамоэ Ру і Кіміо Ябукі, а намаляваў яго Сехэй Кавамота.

Амерыканскі рэжысёр Сідней Полак паставіў па матывах аднайменнага рамана Эрыха Марыі Рэмарка кінакарціну **«ЖЫЦЦЕ У ПАЗЫКУ».**

...Вядомы аўтагоншчык Бобі Дзірфілд знаёміцца з Ліліян. Бобі падабаецца яе непасрэднасць і шчырасць. Але неўзабаве ён стамляецца ад яе эксцэнтрычных учынкаў і яны расстаюцца. Разлука дапамагае Бобі зразумець, што яго пачуццё да Ліліян не мімалётнае. Выпадкова даведаўшыся, што жыць ёй застаецца нядоўга, Бобі вяртаецца да Ліліян, каб ужо не расставацца да апошніх дзён яе жыцця.

У галоўных ролях выступілі Аль Пачына, Марта Келер, Ані Дзюпрэ, Рамола Валі, Стывен Мелдэг.

Па аднайменнаму раману Генры Уільямсана англійскі рэжысёр Дэвід Кабхэм зняў кінастужку **«ВЫДРА ПА ІМЕНІ ТАРКА».**

У фільме прасочваецца цэлая жыццёвая гісторыя звярка. Маленькі Тарка нараджаецца сляпым і бездапаможным. Мінае час, Тарка сталее. Кожны дзень ён даведваецца аб нечым новым з навакольнага свету, сустракае сяброў, вучыцца асцерагацца ворагаў. Дарослыя выдры накіроўваюцца падарожнічаць, і Тарка таксама пускаецца ў дарогу. Нялёгка даводзіцца Тарку зімой, але яму ўдаецца выжыць. А вясной і да Тарку прыходзіць радасць: ён сустракае сяброўку і ў іх нараджаюцца дзеці. Але шчасце Таркі было нядоўгім. Паляўнічыя высле джваюць выдру...

**На першай старонцы вокладкі — вядомы акцёр Яўген Жарыкаў, якога вы бачылі ў кінакарціне «Любоў мая вечная». У маі гледачы зноў сустрэнуцца з папулярным акцёрам у чэхаславацкім фільме «Світанне працягвалася ўсю ноч».**

Заслужаны артыст РСФСР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Яўген Жарыкаў скончыў у 1964 годзе Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі. Цяпер ён акцёр кінастудыі «Масфільм». Дэбютаваў у фільме «А калі гэта каханне?». Затым выканаў ролі ў кінакарцінах «Іванава дзяцінства», «Снягурачка», «Дума пра Каўпака», «Не можа быць!» і многіх іншых. К гэтаму часу акцёр зняўся ў 45 фільмах. Асаблівы поспех выпаў на долю Я. Жарыкава ў шматсерыйным тэлевізійным фільме «Народжаная рэвалюцыяй».

Фота «Саюзінфармкіно».

**На чацвёртай старонцы — народны артыст СССР Віктар Тарасаў і юны выканаўца Дзіма Пракапчук у фільме «Ветразі майго дзяцінства».**

Народны артыст СССР Віктар Тарасаў — акцёр Беларускага дзяржаўнага Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Адначасова актыўна здымаецца ў кіно. З вялікім поспехам сыграў ён ролі ў кінакарцінах «Соф'я Пяроўская», «Крушэнне імперыі», «Полымя», «Нядзельная ноч», «Дзяржаўная граніца» і многіх іншых — усяго больш як у дваццаці фільмах. Віктара Тарасава добра ведаюць і любяць не толькі аматары тэатра, але і кінагледачы.

Фота кінастудыі «Беларусьфільм».

# НА КІНАЭКРАНАХ У ЧЭРВЕНІ

**ПАЛЫН — ТРАВА ГОРКАЯ [«Масфільм»].**

Дзеянне кінакарціны адбываецца ў далёкай вёсцы, дзе, як і па ўсёй краіне, людзі жылі тады чаканнем блізкай перамогі. У доме Ермаковых чакалі з фронту сына Трафіма. Старэйшы сын, Павел, адваяваўся ўжо, меў добрую пасаду, але бацькам прыносіў мала радасці: пры жывой жонцы завёў палюбоўніцу, кідаў грошы на вецер, адкуль браў — невядома.

Трафім вярнуўся не адзін, ён прывёз з сабой ціхую дзяўчыну Машу, якая перанесла ўсе жахі фашысцкай няволі. Толькі каханне Трафіма можа вылечыць Машу ад цяжкіх успамінаў і вярнуць яе да жыцця.

**КРЫК ЦІШЫНІ [«Масфільм»].**

Гэта дэтэктыў, падзеі якога разгортваюцца ў нашы дні ў глухой тайзе на беразе Байкала. Тут хмарным асеннім днём быў знойдзен цяжкапаранены егер...

**ДЗЯЎЧЫНА І ГРАНД [«Ленфільм»].**

Галоўныя героі спартыўнага прыгодніцкага фільма — Марына і конь Гранд. У свой час Марына выратавала яго ад вернай смерці. І вось цяпер Марына стала першакласнай наезніцай. Разам са сваім любімцам, які яе часта выручае, яна праходзіць мноства спартыўных і жыццёвых выпрабаванняў.

**КАРНАВАЛ [Кінастудыя імя М. Горкага].**

Маладая дзяўчына, якая марыць стаць актрысай, прыязджае ў Маскву. Паступіць у тэатральнае вучылішча ёй не ўдаецца. Але за паўгода жыцця ў сталіцы дзяўчына пачала больш цвяроза глядзець на жыццё.

**ЗАЛАТОЕ РУНО [«Узбекфільм»].**

Кінакарціна расказвае пра барацьбу органаў дзяржбяспекі з валютчыкамі і кантрабандыстамі.

**НОЧ НА ЧАЦВЁРТЫМ КРУЗЕ [«Ленфільм»].**

Героі кінакарціны — работнікі дыспетчарскай службы буйнога чыгуначнага вузла, людзі, ад якіх залежыць дакладнасць і бяспека руху паяздоў. Рашучасць, ініцыятыўнасць, уменне ўзяць на сябе ўсю паўнату адказнасці — усе гэтыя важныя чалавечыя якасці праяўляюцца ў складаных і нечаканых сітуацыях.

**ТАЙНА СІНІХ ГОР [«Ленфільм»].**

Старшакласнікі Мурад і Майсарат кахаюць адзін аднаго. Але дзяўчына з дзяцінства сасватана іншаму — такі звычай. Героі пачынаюць змагацца за сваё каханне...

**КРОЎ КАЧАРА [АПОШНІ ПЕРАХОД] [«Казахфільм»].**

Палітычны дэтэктыў, дзеянне якога адбываецца ў Казахстане ў першыя гады Савецкай улады. У фільме расследуецца забойства народнага героя Амангельды Іманава, расказваецца пра складаную барацьбу з белабандытамі.

**СТО РАДАСЦЕЙ, АБО КНІГА ВЯЛІКІХ АДКРЫЦЦЯЎ [Адэская кінастудыя].**

Фільм пастаўлен па апавяданнях Віталія Біянкі і ў жанры дакументальнай казкі паказвае жыццё і звычкі жывёл.

**НА ЧУЖЫМ СВЯЦЕ [Свярдлоўская кінастудыя].**

Фільм узнімае важную праблему так званага «цяжкага падлетка». Дзевяцікласніца Надзя, пакрыўдзіўшыся на маці, цішком едзе на поўдзень і прабуе пачаць самастойнае жыццё...

**ПРАВА КІРАВАЦЬ [Адэская кінастудыя].**

На пасаду старшыні вялікага калгаса ёсць дзве кандыдатуры — галоўны інжынер і галоўны аграном. Абодва — маладыя спецыялісты і абодва... закаханы ў дачку былога старшыні...

**АФІЦЫЯНТ, АТРЫМАЙЦЕ! [ЧССР].**

Сатырычная камедыя, герой якой, маючы сціплы аклад прадаўца кніжнага магазіна, вырашае падзарабіць іншым шляхам...

**ДАХ НАД ГАЛАВОЙ [ГДР].**

Караліна парывае з камерцыяй бацькоў і прабуе самастойна арганізаваць сваё жыццё.

**АСУДЖАНЫЯ НА АДЗІНОТУ [Куба].**

Дзеянне кінакарціны адбываецца ў першыя гады пасля кубінскай рэвалюцыі 1959 года сярод прадстаўнікоў звергнутых буржуазных класаў.

**КРАМЕР СУПРАЦЬ КРАМЕРА [ЗША].**

Тэд і Джаана аднолькава любяць сына, але Джаану не задавальняюць адносіны Тэда да яе. І яна пакідае сям'ю...

**КЛЯТВЫ І АБЯЦАННІ [Індыя].**

Аміт — навуквы работнік, а яго брат Раджу — бесклапотны гуляка, які раз-пораз трапляе ў розныя гісторыі. У адной з боек, пачатых Раджу, Аміт гіне. Раджу глыбока перажывае здарэнне.

**ЗЛАЧЫННЫ РЭПАРТАЖ [Францыя].**

Тэлеаператар Родзі згаджаецца ўманціраваць у вока тэлекамеру, каб зрабіць сенсацыйную перадачу — рэпартаж аб смерці. Аб'ектам выбрана пісьменніца, якой доктар знарок паведамляе аб смяротным захворванні.



ШТОМЕСЯЧНЫ ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ПА КІНЕМАТАГРАФІІ.
ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП БЕЛАРУСІ, МІНСК.

**Рэдактар Ю. М. БАГДАНАЎ.**
**Рэдакцыйная калегія: І. А. ГРЫДЗІН, М. А. КАРАЛЕВІЧ [адказны сакратар], В. Ф. НЯЧАЙ, К. Р. РАМАНОЎСКІ, М. П. ФРАЙМАН, Ул. Т. ХАЛІП.**

№ 5 (297). Выдаецца са жніўня 1957 г.

Адрасы і фотаздымкі акцёраў, а таксама іншы фактычны матэрыял рэдакцыя не высылае.

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск-41, Ленінскі праспект, 79.
Тэлефон — 32-86-22.



Здадзена ў набор 14.04.82. Падп. да друку 27.04.82. Фармат $60 \times 90^{1}/_{8}$. Ум. друк арк. 2. Ул.-выд. арк. 4. Зак. 858. Тыраж 171 458 экз. Цана 20 кап.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня Выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

